*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 50 (4799) 19 снежня 2014 г.**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў кінематаграфістаў з 90-гадовым юбілеем беларускага кіно. «Кіналетапіс жыцця Радзімы — гэта наш культурны здабытак, які неабходна захоўваць і прымнажаць. Таму дзяржава робіць і будзе рабіць усё магчымае для развіцця беларускага кінематографа на аснове творчага спалучэння нацыянальных традыцый і сусветнага вопыту з выкарыстаннем найноўшых тэхналогій фільмавытворчасці», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Пасол Беларусі ў Іспаніі (па сумяшчальніцтве) Павел Латушка разам з генеральным дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімірам Пракапцовым, які нядаўна наведаў Іспанію, сустрэўся з кіраўнікамі шэрагу вядучых музеяў гэтай краіны. Абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва паміж Нацыянальным мастацкім і музейнымі ўстановамі Іспаніі.

✔ Уладальнікам Гран-пры I Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў прызнаны ўзбекскі тэнар Раміз Усманаў. Лаўрэатам першай прэміі стала сапрана Марыя Шабуня (Беларусь), другой — сапрана Валянціна Федзянёва (Украіна), трэцяй — грузінскі барытон Лаша Сесіташвілі. Спецыяльнымі прэміямі Вялікага тэатра Беларусі ўзнагароджаны тэнары Іон Цімофці (Малдова) і Ованес Айвазян (Арменія).

✔ Мінчанін Уладзіслаў Хандогі стаў пераможцам XV Міжнароднага тэлевізійнага конкурсу юных музыкантаў «Шчаўкунок» па класе фартэпіяна, які праводзіўся ў Маскве. Піяніст прызнаны пераможцам і па выніках галасавання гледачоў.

✔ Прэзентацыя карпаратыўнага календара ЗАСТ «Белнафтастрах», прысвечанага 70-годдзю Вялікай Перамогі, прайшла ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, які разам з Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі спрычыніўся да рэалізацыі праекта.

✔ Заўтра Магілёўскае грамадскае аб'яднанне «Рускае культурна-асветніцкае таварыства» праводзіць урачыстае мерапрыемства «Наша Перамога», прысвечанае 70-годдзю вызвалення Беларусі і 70-годдзю Вялікай Перамогі. У бібліятэчным каледжы імя А. С. Пушкіна адбудуцца «круглы стол» «Наша Перамога» і прэзентацыя кніг ваеннай тэматыкі.

✔ Беларускі дзяржаўны цырк запрашае на новае прадстаўленне «Чароўны сон у зімовую ноч», якое пазнаёміць з багатай і самабытнай культурай Беларусі. Паводле кіраўніка Белдзяржцырка, аўтара сцэнарыя і рэжысёра-пастаноўшчыка праграмы Вітаўтаса Грыгалюнаса, для спектакля стварылі дзевяць цыркавых нумароў, пашылі сотню касцюмаў.

✔ Маляваныя дываны Віцебскага Паазер'я ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Адпаведнае рашэнне прынята на пасяджэнні Беларускага рэспубліканскага навукова-метадычнага савета па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Беларусі.



*Фота Міхаіла Несцерава*



*Мінскі міжнародны Калядны оперны форум адкрыўся 12 снежня прэм'ерным спектаклем «Паяцы» Руджэра Леанкавала ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра Вялікага тэатра Міхаіла Панджавідзэ. Каніа — народны артыст Беларусі Сяргей Франкоўскі.*

# Каралеўства лістоў ды газет

**Мітусня ў прадчуванні навагодніх свят вымушае людзей спяшацца. У тым ліку парадаваць сябе і блізкіх свежымі папяровымі радасцямі: газетамі, часопісамі, кнігамі. Эпоха інтэрнэт-тэхналогій ніколі не заменіць рамантычнага адчування дотыку да папяровых старонак. З лістамі і паштоўкамі тая ж гісторыя — яны не губляюць актуальнасці. У размове з генеральным дырэктарам РУП «Белпошта» Ірынай Саксонавай карэспандэнт «ЛіМа» даведаўся пра чатыры эфектыўныя спосабы афармлення падпіскі за пару хвілін, высветліў, што так прыцягвае людзей у паштовыя аддзяленні і якіх новых паслуг чакаць кліентам у будучым годзе.**



**— Вынікі пераднавагодняй падпісной кампаніі вас радуюць? Друкаваныя выданні не прайграюць у вечнай «бітве» з інтэрнэтам?**

— Найбольш актыўная падпісная кампанія прыпадае на апошні месяц года — і цяперашні час не выключэнне. Спадзяёмся, тыражы будуць не меншыя, у тым ліку і літаратурных выданняў, — ва ўсякім разе прыкладаем да гэтага значныя намаганні. Інтэрнэт упэўнена павышае колькасць чытачоў. Нядзіўна, бо віртуальная прастора адкрывае дадатковыя магчымасці, напрыклад, звычайныя тэксты суправаджаюцца відэа- і аўдыяматэрыяламі. З гэтым даводзіцца лічыцца. Але я ўпэўнена, што ад друкаванага слова, ад звыклага паху друкарскай фарбы і задавальнення, якое адчуваеш, калі трымаеш у руках свежы нумар, людзі не адмовяцца — ні зараз, ні праз колькі год.

**— На якія газеты і часопісы больш попыт?**

— Не хачу займацца рэкламай (альбо антырэкламай), але магу сказаць, што асаблівым попытам карыстаюцца выданні для адпачынку, пра хатнюю гаспадарку, народную медыцыну, стравы, сад і агарод.

**— Якія спосабы афармлення падпіскі існуюць сёння?**

— «Белпошта» не можа адставаць ад часу і працуе над тым, каб свае паслугі зрабіць больш прывабнымі, якаснымі і зручнымі, словам, на любы густ. Гэта тычыцца і падпіскі на друкаваныя СМІ. Сёння ў кліента — выбар. З дапамогай пластыкавай банкаўскай карткі падпіску можна афарміць праз паштова-даведачны тэрмінал, нават не падыходзячы да аператара. Другі варыянт — замовіць выданне літаральна з кватэры праз інтэрнэт-сайт «Белпошты». Падпісчыкам падабаецца менавіта такі спосаб, і колькасць віртуальных паслуг расце.

Чытайце на стар. 8 ▶

*Акцыі*

# Неўміручыя радкі

**Напярэдадні 70-годдзя Вялікай Перамогі памяць усё больш вяртае нас да падзей мінулай вайны. Выданні цэлай кагорты беларускіх літаратараў засведчылі розныя часы ваеннага ліхалецця. Дакументальна і ў мастацкіх вобразах пісьменнікі адлюстравалі падзеі таго часу. Сярод тых, хто прыраўняў пяро да штыка, — ураджэнцы Міншчыны.**

Прайсціся шляхамі літаратурнай памяці, каб аднавіць эпізоды вайны, узгадаць імёны змагароў, схіліць голаў перад помнікамі і знайсці падтрымку ў як мага большай колькасці сучасных патрыётаў — такую задачу паставілі арганізатары сумеснай акцыі газет «Звязда» і «Мінская праўда», Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і Мінскай абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў «Слова клікала ў бой». Старт быў дадзены на Пухавіцкай зямлі, жыхары якой мужна змагаліся з акупантамі. На мінулым тыдні прадстаўнічая дэлегацыя сталічных журналістаў і пісьменнікаў наведала Капыльскі раён.



Фота Яўгена Пясецкага

У вёсках перш за ўсё звяртаюць на сябе ўвагу помнікі. У Камяні ўшанавалі памяць 203 загінуўшых землякоў, у Пясочным — брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан 300-й брыгады імя Варашылава і 27-й брыгады імя Чапаева. У кожнай са школ — выдатныя краязнаўчыя музеі. Юныя экскурсаводы з веданнем тэмы знаёмяць з гісторыяй роднага краю, прадстаўляюць знакамітых землякоў.

У Каменскай школе ёсць куток, прысвечаны Анатолю Астрэйку. Кіраўнік краязнаўчага музея Ірына Тагель расказвае, з якой цікавасцю дзеці вывучаюць творчую біяграфію пісьменніка, асабліва перыяд, звязаны з яго ўдзелам у выпуску газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Як вядома, Анатолю Астрэйку належыць аўтарства ўнікальнага зборніка вершаў «Слуцкі пояс», выдадзенага на акупіраванай тэрыторыі ў 1943 годзе.

Пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Марціновіч нагадвае імёны іншых знакамітых творцаў, якія паходзяць з Капыльшчыны. Творчая біяграфія Кузьмы Чорнага таксама звязана з газетай-плакатам «Раздавім фашысцкую гадзіну». Сцяпан Александровіч ваяваў у партызанах. Адзначаны ордэнамі Айчыннай вайны ІІ ступені, Славы ІІІ ступені, медалямі. У пасляваенны час стаў літаратарам, прафесарам Белдзяржуніверсітэта.

«Кожны, хто піша, ведае той галоўны штуршок у жыцці, які зрабіў яго літаратарам, — адзначаў у сваіх успамінах капылянін і вядомы пісьменнік, баец партызанскага атрада на Бабруйшчыне Алесь Адамовіч. — Для адных гэта была рэвалюцыя, грамадзянская вайна… Для мяне і многіх маіх аднагодкаў — Айчынная вайна і Дваццаты з'езд». Далей аўтар спасылаецца на пэўную ўзаемасувязь гэтых гістарычных падзей. Вынікам перажытага ім сталі аповесці «Карнікі», «Хатынская аповесць», раманы «Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», удзел у стварэнні кніг «Я з вогненнай вёскі» і «Блакадная кніга».

На літаратурных чытаннях у Капыльскай раённай бібліятэцы ўсе пагадзіліся з тым, што сёння эстафету патрыятычнага выхавання ад ветэранаў Вялікай Айчыннай павінны падхапіць пісьменнікі. Сярод беларускіх аўтараў, у тым ліку і нашых сучаснікаў, няма такога, які б у той або іншай ступені не звяртаўся да ваеннай тэматыкі. Ісці да людзей, гаварыць праўду пра вайну, выхоўваць сапраўдных патрыётаў — гэта і права, і маральны абавязак творцаў.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Разам!

Прэзентацыя зборніка вершаў «Неделимое русло», у які ўвайшлі творы членаў Санкт-Пецярбургскага ды Ленінградскага абласнога аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбылася ў Доме пісьменніка ў Санкт-Пецярбургу.

Адкрываючы мерапрыемства, старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення СПР Барыс Арлоў адзначыў, што пісьменніцкія арганізацыі супрацоўнічаюць даўно і канструктыўна ўзаемадзейнічаюць. Пацвярджэннем таму — выхад новай кнігі. Дырэктар Дома пісьменніка Уладзімір Малышаў падкрэсліў значнасць выдання — магчыма, гэта першы падобны праект з часу распаду СССР.

Пра гісторыю стварэння зборніка і яго аўтараў расказаў член праўлення Ленінградскага абласнога аддзялення СПР Андрэй Антонаў. У выданне ўвайшлі творы больш як 90 расійскіх і 40 беларускіх паэтаў. Ідэя ўнікальнай кнігі ўзнікла тры гады таму і была падтрыманая кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, Санкт-Пецярбургскага і Ленінградскага абласнога аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Расіі. Дзякуючы фінансавай падтрымцы Адміністрацыі Санкт-Пецярбурга кніга ўбачыла свет.

Перад удзельнікамі мерапрыемства выступілі аўтары: Мікалай Пятроў, Юрый Іваноў, Анатолій Свярдлоў, Барыс Сарыбекаў і інш.

Гутарка пра выданне была прадоўжана ў канцэртнай зале Дома нацыянальнасцей, куды завіталі і беларускія аўтары, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Аліна Легастаева і Андрэй Скарынкін.

**Андрэй АНТОНАЎ,**
**член Ленінградскага абласнога аддзялення СПР**

***

Прэзентацыя кнігі «Калекцыянер», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Новае выданне змяшчае артыкулы даследчыкаў і калекцыянераў з розных краін па беларускай нумізматыцы, картаграфіі, баністыцы, філатэліі са старажытных часоў да нашых дзён.

«Ідэя стварыць зборнік з'явілася падчас працы над кнігай «Калекцыйная спадчына Вялікага Княства Літоўскага», — распавёў адзін з аўтараў, даследчык нумізматыкі Дзмітрый Гулецкі. — У той час мне пашчасціла пазнаёміцца з мноствам людзей па ўсім свеце, якія займаюцца вывучэннем гісторыі, цікавяцца старажытнымі картамі, манетамі. Узнікла ідэя выпусціць міжнародны альманах».

Над выданнем працавалі даследчыкі з Беларусі, ЗША, Польшчы, Літвы, Вялікабрытаніі… Усіх аб'яднала цікавасць да гісторыі і сучаснасці калекцыйнай справы ў нашай краіне. Пад адной вокладкай сабрана шмат пазнавальных, цікавых артыкулаў. Сярод іх — працы Тадэвуша Зяленскага, Уладзіміра Зяньковіча, Дзяніса А. Хоцімскага, Стэфана Лака ды інш. Зборнік можа па праве лічыцца важкім унёскам у гістарычнае краязнаўства. Выданне кнігі такога маштабу сведчыць пра развітасць калекцыйнай справы ў нашай краіне.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*З нагоды*

# Што музыкантаў хвалюе?

Супольныя мастацкія набыткі, прафесійныя праблемы, асветніцкія задачы і творчыя планы абмеркавалі ўдзельнікі чарговага пленума праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў.

У структуры гэтага грамадскага аб'яднання ўжо дзесяць спецыялізаваных асацыяцый. І хаця ў кожнай з іх акрэслена сваё кола «цэхавых» інтарэсаў і прафесійных задач, тут няма нейкай каставай замкнёнасці, а вынікі працы спрыяюць развіццю айчыннай культуры і прыцягваюць увагу самай дэмакратычнай публікі. Прыкладам — дзейнасць двух такіх падраздзяленняў БСМД, пра якую распавялі на пленуме іх кіраўнікі.

Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў (старшыня Мікалай Марэцкі, ганаровы старшыня Галіна Асмалоўская — віртуозныя артысты, эрудзіраваныя педагогі) прайшла значныя перыяд станаўлення, прынята ў склад Еўрапейскай гітарна-мандаліннай асацыяцыі. За красамоўным фактам — глыбокае вывучэнне і прапаганда традыцый мандаліннага мастацтва; мандалінныя сесіі з удзелам сусветна вядомых майстроў ды іх індывідуальныя ўрокі; прэстыж нашай выканальніцкай школы, шматлікія конкурсныя перамогі гадаванцаў. Музычнае жыццё Беларусі ўзбагацілі такія міжнародныя праекты асацыяцыі, як народна-інструментальныя дэкады «Славянскі вянок» і Дні мандалінна-гітарнай музыкі «Mandolinissimo», філарманічныя праграмы з удзелам творчай моладзі краіны і замежных гасцей. Поспехам увянчалася распачатая пры канцы мінулага стагоддзя навукова абгрунтаваная праца па адраджэнні мандаліны як старадаўняга і надзвычай папулярнага ў Беларусі народнага інструмента. Дбае асацыяцыя пра нацыянальны рэпертуар у навучальнай і канцэртнай практыцы. Набыткам года — тры нотадрукі з творамі рознай складанасці: ад мініяцюрных п'ес для пачаткоўцаў да віртуознага Канцэрта для домры з аркестрам, напісанымі кампазітарам Алінай Безенсон. Усе яны ярка прагучалі на сёлетнім канцэрце-прэзентацыі ў сталічнай філармоніі.

Беларуская прафесійная асацыяцыя (узначальвае яе бліскучы знаўца размаітага сямейства ўдарных інструментаў, музыкант і педагог Уладзімір Судноўскі) нарадзілася амаль 20 гадоў таму. Тут вырашалі задачу фарміравання адзінай айчыннай школы выканальніцтва на ўдарных інструментах, якой у Беларусі фактычна не існавала, былі толькі выбітныя адзінкі — прафесіяналы-асобы. Па ініцыятыве асацыяцыі ў Мінску ладзіліся майстар-класы самых лепшых музыкантаў з Еўропы і Амерыкі. Раней беларускія перкусіяністы гралі пераважна пералажэнні твораў, напісаных для іншых інструментаў. Асацыяцыя, пераадолеўшы сур'ёзныя арганізацыйна-фінансавыя бар'еры, набыла ноты еўрапейскіх выдавецтваў і прапанавала калегам адмысловы рэпертуар. А яе імпрэзы (аншлагавыя «Дні барабанаў і перкусіі ў Беларусі», марафоны-спаборніцтвы маладых выканаўцаў) і міжнародныя стасункі стымулявалі нашых кампазітараў на стварэнне арыгінальнай музыкі для ўдарных. Выхаванцы маладой «ударніцкай» школы цяпер выязджаюць на конкурсы і ўсё часцей прывозяць узнагароды. Шкада, у самой Беларусі конкурсаў для выканаўцаў на ўдарных інструментах бракуе, а яны ж неабходныя, асабліва для пачаткоўцаў, як найважнейшы складнік выхавання прафесійных музыкантаў і стымул да самаўдасканалення.

Размову падтрымалі прафесары Міхась Казінец, Уладзімір Скараходаў, Міхась Дрынеўскі, Аляксандр Карацееў ды іншыя знаныя музыканты, занепакоеныя распадам конкурснай сістэмы, сфарміраванай яшчэ ў савецкі час. Сёння пад пагрозай знікнення апынуліся і некаторыя спецыяльнасці. Ужо адчувальны недахоп музыкантаў-габаістаў, фагатыстаў, кларнетыстаў. Пераўтварэнне традыцыйных музычных школ з поўным спектрам спецыяльнасцей у школы мастацтваў стварыла сітуацыю, калі масавы попыт на безумоўна важныя заняткі харэаграфіяй або дэкаратыўна-прыкладной творчасцю задавальняецца ва ўрон музыцы, змушаны канкураваць з іншымі прыярытэтамі, саступаючы ім. Такім чынам школы перастаюць падсілкоўваць талентамі сярэдняе звяно навучання на згаданых інструментах, вынікам — недабор у акадэмію музыкі. Духавікі раней за іншых выканаўцаў сыходзяць на пенсію, і аркестры вымушаныя запрашаць на працу студэнтаў першых курсаў. Хто будзе далей граць оперную, балетную, сімфанічную музыку?..

На пленуме выступілі першы намеснік старшыні праўлення Наталля Вітчанка (паведаміла пра падзеі, творчыя акцыі, добрыя справы, да якіх спрычыніліся рупліўцы саюза) і арт-дырэктар некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра «Класіка» БСМД Валерый Уколаў (падсумаваў вынікі дзесяцігадовай працы цэнтра і падзяліўся планамі на новы сезон).

Сябры па творчай суполцы павіншавалі старшыню Гомельскага абласнога аддзялення саюза Галіну Паўлянок з высокім званнем народнай артысткі Беларусі, павіталі цёплым словам восеньскіх юбіляраў. Асаблівай увагай атулілі прафесара Міхася Солапава. Дарэчы, на нядаўнім філарманічным вечары, прымеркаваным да яго 90-годдзя, легендарны маэстра нават стаў за пульт славутага аркестра імя І. Жыновіча і прадырыжыраваў танга, а ў парыве ўдзячнасці калектыву за шчырае служэнне мастацтву ўкленчыў перад музыкантамі… Запіс канцэрта будзе паказаны 21 снежня на тэлеканале «Беларусь 3».

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# Памяці калегі і таварыша

12 снежня на 82-м годзе жыцця памёр вядомы паэт-гумарыст і сатырык, майстар літаратурнай пароды Уладзімір Фаміч Ермалаеў. Нарадзіўся пісьменнік 2 студзеня 1933 года ў вёсцы Галавачы Дрыбінскага раёна ў сям'і настаўніка. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў Чавускім і Мсціслаўскім раёнах. Пасля заканчэння Мсціслаўскага педвучылішча (1953), а потым Мінскага педінстытута імя М. Горкага (1958) працаваў настаўнікам, інспектарам школ Смаргонскага раёна, сакратаром райкама камсамола, інструктарам ЦК ЛКСМБ.



З 1964 па 1968 год быў начальнікам аддзела па рабоце з замежнымі студэнтамі ў Міністэрстве вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. З 1975 г. знаходзіўся на выкладчыцкай рабоце ў Мінскім педінстытуце замежных моў, потым у Беларускім політэхнічным інстытуце (цяперашні БНТУ). Кандыдат гістарычных навук (1982), дацэнт.

Друкавацца пачаў з 1962 года, пераважна ў перыядычных выданнях. З 1990 года стала займаўся літаратурнай творчасцю. Выступаў у друку з вершамі, у асноўным гумарыстычнымі і сатырычнымі. Асаблівага поспеху дамогся як парадыст. Яго пяру належаць шматлікія літаратурныя пароды амаль на ўсіх сучасных паэтаў.

Першыя кніжкі выдаў у серыі «Бібліятэка «Вожыка» («Хто не смяецца, той не есць» (1994), «Пераход колькасці ў колкасці» (1997). У 1998-м у выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга гумару і сатыры «Радком па кумпалу». У гэтым жа годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Папулярнасць сярод чытачоў яму прынеслі і кнігі «Дулі будуць апасля» (2004), «Смехам закаханыя» (2008) і інш.

Уладзімір Фаміч прымаў самы актыўны ўдзел у творчым і грамадскім жыцці нашага творчага саюза, карыстаўся вялікім аўтарытэтам, павагай сярод калег і шматлікіх прыхільнікаў дасціпнага мастацкага слова.

Шчыры, добразычлівы, уважлівы, ён умеў і прыязна ўсміхнуцца, і пасяброўску парадавацца, і своечасова падтрымаць. У свой юбілейны 2013 год пісьменнік быў узнагароджаны вышэйшай адзнакай СПБ — медалём «За вялікі ўклад у літаратуру». Паспеў ён падрыхтаваць і кнігу выбраных твораў, якая выйдзе ў наступным годзе ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Светлая памяць пра таленавітага творцу і выдатнага чалавека назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

### Анатоль ЗЭКАЎ

### Развітальнае

Памяці Уладзіміра Ермалаева

*Радзее парадыстаў строй —*
*і боль ад страты невылечны.*
*Як ні маліў бы я:*
*«Пастой!» —*
*ты адляцеў у вырай вечны.*

*І ведае хіба што Бог,*
*хоць і не скажа нам пра гэта,*
*як шмат бы напісаць ты мог*
*яшчэ пародый*
*на паэтаў!*

*Бо тых радкоў,*
*што ты ў блакнот*
*панавыпісваў з нашых вершаў,*
*не на адзін хапіла б год,*
*каб нас пародыямі ўсцешыць.*

*Сыходзіць год, аднак між тым*
*сюжэт са страт сяброў вярстае:*
*Саковіч, Юрчанка і ты*
*услед за імі,*
*Ермалаеў.*

13 снежня 2014 г.

### Янусь МАЛЕЦ

### Бывай...

Памяці Уладзіміра Ермалаева

*Ну што ж, бывай!*
*У іншы край*
*Лягла дарога сумна...*
*Апошні раз нас сустракай*
*На гэтым свеце тлумным.*

*Каму раней, каму пазней —*
*Ісці туды ўсім трэба,*
*Такі ўжо шлях*
*Заўжды ў людзей,*
*Самотны шлях — на Неба.*

*На нейкі час*
*Сваю Зямлю*
*Абраў на адпачынак:*
*«Стаміўся я, крыху пасплю...*
*Бывай, мая Айчына!»*

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта ЕРМАЛАЕВА Уладзіміра Фаміча і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Максім ды Міхаіл

**Лёсы Міхаіла Лермантава і Максіма Багдановіча вельмі падобныя сваім трагізмам. Яркімі каметамі пранесліся яны па паэтычным небасхіле, пакінуўшы ў вечнасці палаючы след.**

Пра гэта распавялі госці сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 15: пісьменнік Валерый Чудаў, паэт, перакладчык Уладзімір Скарынкін, які напісаў паэму «Дзе голуб купаўся», прысвечаную Максіму Багдановічу, журналіст Валянціна Скарынкіна.

Загадчык бібліятэкі Ірына Дзевалтоўская разам з супрацоўнікамі кніжніцы шмат робіць для папулярызацыі беларускай кнігі сярод школьнікаў. Гэтым разам удзел у імпрэзе бралі старшакласнікі СШ № 207 г. Мінска. Атрымаўся цікавы дыялог.

**Святлана МАРАЗОВА**

# Ад плаката...

У сталічнай бібліятэцы № 9 адбылася сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса сатыры і гумару «Вожык», пісьменніцай Юліяй Зарэцкай, намеснікам галоўнага рэдактара, мастаком Аляксандрам Каршакевічам, даўнімі сябрамі і пастаяннымі аўтарамі гэтага выдання, пісьменнікамі Вольгай Сакаловай і Ганадам Чарказянам.

Разам яны адкрылі выстаўку «Раздавім фашысцкую гадзіну»: ад агітплаката да часопіса сатыры і гумару «Вожык», што дэманструе арыгіналы нумароў, якім больш за 70 гадоў. Гэтыя выпускі (усяго 20 экзэмпляраў), пачынаючы з самага першага нумара, прадставіў калекцыянер і гісторык, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Ліхадзедаў у межах праекта «У пошуках страчанага».

Пісьменнікі прачыталі гумарыстычныя творы. Падпісалі свае кнігі для бібліятэкі.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# На скрыжаванні стыхій

Паэтычны арт-хаос пад назвай «СтихиЯ» маладой паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Людмілы Клачко прайшоў у сталічным клубе «Графіці».

Назва імпрэзы сімвалічная: у паэзіі Людмілы якраз і сутыкаюцца стыхіі вады, агню, зямлі і паветра. Ды і ўвогуле, яе лірыка — сапраўдная скарбонка яркіх вобразаў, эпітэтаў, метафар, філасофскіх паралелей.

Музычнае афармленне вечарыны стварыў малады кампазітар Сяргей Бутоўскі, які выканаў напісаныя ў суаўтарстве з Людмілай песні. Сярод гасцей паэтычнага арт-хаосу — бард Ганна Чумакова, паэтэса Шэва (сапраўдныя імя і прозвішча — Марыя Літвінава) і паэт Дзяніс Кандрацьеў.

Адметна, што «клубны» фармат гожа стасуецца з творамі і самой Людмілы, і іншых выступоўцаў: такая паэзія — высокатэхнічная, інтэлектуальная, вельмі актуальная для нашага часу.

**Яна ЯВІЧ**

# Калі кіруе натхненне

Адмысловае творчае свята адбылося ў Мінскім універсітэце кіравання. Імпрэза невыпадкова мела назву «Натхненне». Студэнты прадэманстравалі свае таленты: мастацкія, вакальныя, літаратурныя, музычныя.

Перад прысутнымі выступілі са сваімі вершамі ганаровыя госці — паэты сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі: Міхась Пазнякоў, Дар'я Лёсава, Людміла Клачко і Кацярына Масэ.

Студэнты і выкладчыкі атрымалі слушныя парады ад экспертаў — члена Беларускага саюза мастакоў Генадзя Сухамлінава, старшыні МГА СПБ Міхася Пазнякова, спевака, кампазітара і музыканта Ігара Задарожнага.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Багдановіч: знаходкі

У дзень нараджэння Максіма Багдановіча даследчыкі яго жыцця і творчасці сабраліся ў музеі паэта, каб расказаць пра новыя знаходкі.

Дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Уладзімір Адамушка падарыў музею копіі 17 дакументаў, выяўленых супрацоўнікамі Дзяржаўнага архіва Ніжагародскай вобласці, сярод якіх лісты аб пасяхоўвасці Максіма і Льва; пратаколы педсаветаў, дзе ўскосна засведчана гарэзлівасць і атыўнасць хлопчыкаў; прашэнне Адама Рыгоравіча аб дазволе другі раз узяць шлюб.

Загадчык кафедры беларускай філалогіі БДТУ Мікалай Трус пазнаёміў прысутных з газетай «Веснік саюза вызвалення Украіны», дзе ў нумарах за 1916 год быў апублікаваны артыкул Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне». Матэрыял выклікаў цікавасць чытачоў і неўзабаве быў выдадзены асобнай брашурай. У такім фармаце рэдакцыя звычайна прапаноўвала даследаванні па ўкраіназнаўстве — за выключэннем твора М. Багдановіча і артыкула пра нацыянальнае адраджэнне ў Ірландыі. Даследчык звярнуў увагу на тое, што публікацыя ў час Першай сусветнай вайны змешчана ў газеце, якая выходзіла ў Аўстра-Венгерскай імперыі — краіне, варожай Расіі.

Пераклад на ўкраінскую мову «Апокрыфа» М. Багдановіча быў выяўлены М. Трусам у часопісе «Летапіс палітыкі, пісьменства і мастацтва» (1924), які выдаваўся ўкраінскай эміграцыяй у Берліне. Па словах даследчыка, выданне мела цесныя стасункі з часопісам «Крывіч» у Коўне, і «Апокрыф», верагодна, трапіў у «Летапіс...» праз Вацлава Ластоўскага.

Літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч распавёў аб працы над «Творамі» Максіма Багдановіча, якія сёлета пабачылі свет у серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» выдавецтва «Мастацкая літаратура»: «У кнігу увайшлі артыкулы, якія мы з Юрасём Пацюпам шукалі, калі рабілі зборнік літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы». Так, першы нумар часопіса «Вольны сцяг», у якім апублікаваны артыкул Уладыслава Дзяржынскага «Прырода ў творчасці М. Багдановіча», выпадкова знайшоўся ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Праз перапіску трапілі да нас амаль міфічныя ўспаміны Хведара Імшэніка».

Інтэрнэт-пошукі могуць быць не менш плённымі, чым праца ў архівах. Досведам падзялілася навуковы супрацоўнік мемарыяльнага музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка» Ірына Мышкавец. На алічбаваных старонках перыядычных выданняў пачатку XX ст. быў адшуканы фельетон «Международный чемпионат и ярославцы», падпісаны псеўданімам Эхо, якім карыстаўся М. Багдановіч, а ў сацыяльных сетках знайшоўся фотаздымак вучняў Яраслаўскай мужчынскай гімназіі (1911), сярод якіх ёсць хлопчык, вельмі падобны да Максіма. Дакладна вызначыць асобу гімназіста дапаможа экспертыза.

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка павіншавала супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і прапанавала парады па працы над будучай экспазіцыяй. У будынку музея ўжо прайшоў капітальны рамонт. Пакуль наведвальнікаў сустракае невялікая выстаўка апошніх паступленняў. А што чакае аматараў літаратуры ў наступным годзе?

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**19 снежня** — *на літаратурную сустрэчу, прысвечаную памяці празаіка Анатоля Маісеева. Мерапрыемства пройдзе ў СШ № 182 (вул. Карвата, 20). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**19 снежня** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчую сустрэчу з празаікам і паэтэсай Ірынай Тулупавай. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**21 снежня** — *на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Доблесць», якое пройдзе ў бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**22 снежня** — *у літаратурную гасцёўню «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) на паэтычнае свята «Пад зоркай Максіма Багдановіча». Госці — паэтэсы Іна Фралова і Ганна Чумакова. Пачатак у 14.15.*

**24 снежня** — *на творчую імпрэзу «Бягуць нястрымныя гады…» у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2) з удзелам вялікай групы пісьменнікаў сталічнай арганізацыі. Пачатак а 13-й гадзіне.*

Тацяна МАЦЮХІНА



## Запавет

*У кожным куточку Радзімы,*
*у роднай сваёй я старонцы*
*шукаю Запаветную кнігу,*
*якую асвечвае сонца*
*і неба якую прарочыць*
*таму, хто душою не хцівы,*
*таму, хто душою не злосны,*
*таму, хто спрадвечна маўклівы.*
*І словы ўслых не кажу я,*
*бо тайна мяне заклікае*
*да новых адкрыццяў у гуку.*
*Ў натоўпе той гук замірае,*
*становіцца рэзкім і грубым.*
*І кніга знікае ў паветры.*
*Я клятву дала: у маўчанні*
*здзяйсняць гэты шлях Запавету.*

***

*Залаціста-ружовая восень*
*не прыпыніцца, а міне,*
*каб спаткаць мяне у лістоце,*
*у нястрымнай, глыбокай журбе…*
*Я кахаю цябе — утрапёна,*
*ды здагадкі твае — не мае.*
*Залаціста-ружовая восень*
*хрызантэмай квітнее ў вясне…*

***

*Любіць цябе*
*І быць душой адкрытай.*
*У свеце адшукаць маленькі след*
*свайго пачатку.*
*У абдымках ветру акрыленай*
*у неба палящець…*
*Я марыла сягоння ўночы.*

***

*Вярнуць мінулых дзён я не змагу,*
*хаця ў душы я Вас яшчэ кахаю*
*і зрэдку, мімаходзь, успамінаю,*
*аднак услых я не кажу: «Люблю».*
*Я сутнасць Вашу бачыць не жадаю,*
*хаця для Вас — зямля святая,*
*яшчэ не ўбачаная, сэрцу дарагая.*
*Каб ціха прашаптаць:*
*«Здаўна люблю…».*



Фота Кастуся Дробава

Расціслаў БЕНЗЯРУК



## Самотны санет

Светлай памяці Вольгі Верамейка

*«Вясёлка не заблудзіцца ў завею», —*
*У цуд паверыўшы, я напісаў тады.*
*Не мог я ведаць, што праз два гады*
*Цябе пакліча студзеньская вея.*
*Хаця жыла з надзеяю і верай,*
*Хаця было задумак, можа, рой,*
*Не палічыўся ўсё-ткі лёс з табой:*
*Душа самотная зляцела ў вырай…*

*Вакол зіма дыван паслала белы,*
*Накінула бярозка зорны вэлюм,*
*Стаяла моўчкі ў роспачнай журбе,*
*І здаўся дзень святым, хаця быў будзень…*
*Чаму, о Божа, тых, каго так любіш,*
*Ты рана забіраеш да сябе?*

## Сосны

*Я гляджу на высокія сосны:*
*Колькі зімаў яшчэ не міне,*
*Прыйдуць новыя, светлыя вёсны,*
*Ды шкада, што не будзе мяне.*

*Можа, праўнук па вас будзе мераць*
*Час бяссмерця? Але ж не заўжды*
*Вам стаяць: ці асіліць сякера,*
*Ці нарэшце струхлявяць гады…*

***

*Туга — не кропелька бурштыну —*
*Цяпло забрала недарма:*
*Бязлісты клён у змроку стыне,*
*Лютуе грозная зіма.*

*Жыцця стракатасць, як сарока,*
*Што прылятае к нам здавён,*
*Паверне часам светлым бокам,*
*А болей — неспакойных дзён.*

*Жыву з надзеяй у трывозе,*
*Зноў да світання не засну…*
*Пра што клён шэпча на марозе?*
*Мо разам марым пра вясну?..*

## Зімовы госць

*Кажуць, стукаў ноччу госць*
*Да мяне?*
*Можа, так яно і ёсць?!*
*Дык у сне*
*Я пачуць яго не мог,*
*Не адкрыў.*
*Начаваць той госць прылёг*
*У двары.*
*Хто пакінуў нам кажух,*
*Гавары!*
*Ці рассыпаў белы пух*
*Па двары?*
*Хто пачуў пра халады,*
*Сам прыбег,*
*Белы, чысты, малады?..*
*Першы снег.*

Васіль МАКАРЭВІЧ



## Вяртанне

У вянок Васілю Быкаву

*На ратушы стрэлкі*
*Гадзінніка чэкаюць,*
*Іржышча хвілін састрыгаюць далоў.*
*Не можа застацца ён болей у Чэхіі, —*
*Патрэбна краём яму трапіць*
*Дамоў!*

*Палата над ім*
*Навісала з хірургамі,*
*Яго рассякаў ледзь не напал ланцэт.*
*Лячыцца яму лепш мяцеліц харугвамі,*
*Ды тою чачоткай, што вытанчыць*
*Цэп!*

*Спякотаю пліты,*
*Здаецца, ўжо спечаны,*
*Ды з небам радары, відаць, не ў ладах.*
*Няўжо валаводзяцца недзе*
*дыспетчары?*
*А можа, марудзіць раскрылены*
*Птах?*

*У небе, па ямах*
*Ды рваных выбоінах,*
*Турбінамі грозна рвучы немату,*
*Насілі яго паднябесныя Боінгі,*
*Цяпер павязе, як падвода,*
*Наш ТУ.*

*У дзюнах чужых*
*Закідонаў і закідаў*
*Ён гробся часамі, бы ў шэрых пясках.*
*Ах, як не хацелася сквапнаму Захаду*
*Дадому, ў Наддзвінне, яго*
*Адпускаць!*

*Ніхто не чакаў,*
*Што аблокі, як нераты,*
*На ТУ абышоўшы здаля старанай,*
*Памкнецца да ўсходу душою*
*павернуты,*
*Да захаду — ўпарта прыгнутай*
*Спіной.*

*Ён мог бы ў палёце*
*І зморшчыцца грэбліва, —*
*Так лайнер трасло і пускала ў разнос, —*
*Нібыта прасёлачнай восеньскай*
*грэбляю*
*Каціўся па ўхабах нязмазаны*
*Воз.*

*Хай недзе газетчык*
*З аб'ездчыкам рохкае,*
*Ды ў роспачным гневе зацята раўне, —*
*Дарога, якой бы не сталася дрогкаю,*
*Дамоў дзеля ўсіх ад абруса*
*Раўней!*

*І як на зямлі*
*Дурнаўё не гарланіла,*
*Не енчыла скрозь галасамі крукоў, —*
*Сузор'і гранёнымі віслі гірляндамі,*
*І ледзь не ламіліся ў лайнер*
*З бакоў.*

*Ён справы не меў*
*З прыгажунямі-кралямі,*
*Хоць мог і паднесці сюрпрыз на хаду.*
*Нібы сярод чыстых жамчужын з*
*караламі,*
*Шчаміўся з ім ТУ праз аблок*
*Чараду.*

*І ўбачыўшы пліты,*
*Як завадзь люстраную,*
*У крылы раскінуў на поўны размах.*
*ТУ рынуўся з ім з-пад сузор'я*
*астральнага*
*Ў абдымкі зямлі, па якой ён*
*Сасмаг.*

*Як пахнуць аблокі*
*Ў нас булкамі хлебнымі,*
*Што нівай маленне узносяць Хрысту.*
*Здаецца, не крылы — анёлы паднебныя*
*ТУ знеслі з нябёс на гудрона*
*Вярсту.*

*І чыркнулі колы*
*Па ёй, быццам пiламі,*
*Як дрэва раскроіўшы ўсцяж да камля.*
*Не важна, як глянуць службісты*
*зверхпільныя —*
*Больш важна, як родная прыме*
*Зямля.*

*І стромісты трап*
*Размахнуўся ды лесвіцу*
*З паўсотняй прыступак закінуў уверх.*
*На дол па такой можна збегчы*
*і з Месяца,*
*А трэба і — з Марса сысці,*
*Бы на верф.*

*А — ліха глынуў*
*З чужаземнае конаўкі —*
*На поўныя грудзі дзень чысты ўдыхні,*
*Хаця б і пад пільнай апекай законнікаў*
*Ды шолахам клёнаў, як блізкай*
*Радні!*

*Мо пахкая пушча*
*Дыхнула так водарам,*
*А можа, ударыў раптоўна скразняк.*
*Зямля захадзіла пад ім як не ходырам,*
*Хіснуўся ўбаку, бы сабор,*
*Беразняк.*

*Як трызніў ён роднай*
*Зямелькай з нішчымніцай,*
*Як пахнуў здалёку з суглінкам падзол!*
*Ён рукі хацеў распрасцерці*
*ды кінуцца,*
*На дол і зарыцца, бы ў матчын*
*Падол.*

*Хоць хмарка вісіць*
*Над зямлёй прамакаткаю,*
*Каб промень на шпілях сталіцы*
*заспець, —*
*Патрэбна хутчэй з партманэ*
*ды манаткамі*
*Ў падземны тунэль кіраваць,*
*Бы ў чысцец!*

*Падлога і столь*
*З чысцінёй каранціннаю.*
*І перш чым замежны ўвесь*
*пыл атрасці,*
*Вось тут прафілактыку, можа,*
*з вакцынаю*
*Павінен за нейкія хвілі*
*Прайсці!*

*З упартай душой*
*Праўдалюбца няўмольнага,*
*Што ўсю прасвісталі наскрозь салаўі,*
*З замежжа што мог ён прывезці*
*крамольнага,*
*Апроч да радзімы гаркотнай*
*Любві?!*

*Хоць рэпы хапае*
*Там з горкай радыскаю,*
*Пакуль яшчэ ў целе ён дуж і ў касці,*
*Хацеў павітацца з драздамі*
*Наддзвінскімі,*
*Ды ціха ў бацькоўскія долы*
*Сысці.*

*З душы ападзе*
*Ўмомант пена ружовая,*
*Заморская ўспомніцца безань і мель,*
*Калі, нібы ў сківіцах, жве-перажоўвае,*
*Да ніткі прасвечвае пільны*
*Тунэль.*

*Чаго там, а вопыту*
*Шмат падзаймелі мы —*
*Адзін за адным зырыць днём ды пасці.*
*І недзе ў аб'езд, а часцей падзямеллямі,*
*Ў святлістае заўтра ісці*
*Ды паўзці.*

*Не помніў, калі там*
*Прайшлі ды пратэпалі,*
*З чаргі, пэўна, выгнаўшы сотню патоў,*
*Па візах уздоўжкі пячаткі*
*ды штэмпелі,*
*Зірнуўшы ў запазуху ўсіх*
*Пашпартоў.*

*Расстаўся ўрэшце*
*З памежнаю ступаю,*
*З-за тысячы звад і смуродных дымоў*
*З блакнотам пузатым і пёркам*
*не ступленым*
*Вяртаўся ён, родны і любы,*
*Дамоў.*

## Алег ЖДАН

# Замалёўкі бабінага лета



## *Абразкі*

### «НАХАБА»

Малюнак быў звычайны: закінутая хата без вокан, з праселым дахам, такім жа хлеўчуком — вось-вось паваліцца, і — сад спелых яблыкаў. Палова іх ужо асыпаліся, смачна зіхацяць пад сонейкам бабінага лета. Я прытармазіў, вырашыў набраць сумку. І тут пачуў старэчы жаночы голас:

— Глядзі, Мірон, нейкі мужык у яблыкі палез!

— Які мужык?

— Злодзей.

— Няхай лезе, — пачулася ў адказ. — Ці ж мне шкада? Каму яны трэба? Зіма хутка, згніюць.

Як высветлілася потым, два чалавекі засталіся ў вёсцы: на адным канцы дзед, на другім — старая.

— І то праўда. Пятрок ужо гадоў колькі вочы не паказвае. Што яму яблыкі? У яго магазін у Маскве.

Калі я выйшаў на дарогу, старая з кульбаю стаяла ля майго аўто.

— Набраў яблыкаў? — спытала мяне.

— Набраў.

— Ну і добра. А то ж зіма хутка. Згніюць. Петраку яны, відаць, не патрэбныя. Бяры ды паболей.

І яна пасунулася далей.

А вось дзядок раптам скочыў на дарогу.

— Нахаба! — крыкнуў мне і тут жа схаваўся за куст.

Як так? Ніколі я «нахабнікам» не быў. Трэба паразумецца. І я пакіраваў да хаты дзядка.

— Ці ж набраў троху? — прысаромлена спытаў ён, убачыўшы мяне. А можа, і збаяўся: маладзейшы, што як дам поўху?

— Набраў.

— Ну і добра. А тож зіма скора. Згніюць.

— Магу заплаціць. Грошы ёсць.

— Якія грошы! Яны задарма нікому не трэба. Прыязджай, бяры.

Як быццам паразумеліся.

— Бывай, дзед.

— Бывай, бывай. Прыязджай.

А калі завёў рухавік і крануўся, данеслася:

— Нахаба!

### БАБУЛЯ І БАНДЫТ

Яшчэ ўчора красавала бабіна лета, а сёння ўжо прахалодна, сек дробны дождж. Было цёмна. Каля вёскі Мазалава фары высвецілі постаць старой жанчыны, што, пацепваючыся, спінаю да мокрага ветру стаяла на аўтобусным прыпынку. Я адчыніў дзверцы аўто.

— Сядай, бабуля!

Але ж замест таго, каб крочыць да машыны, старая, палахліва азірнуўшыся, скокнула ўбок і дала цягу да бліжэйшае хаты. Аднак тут жа прыпынілася.

— Ты чаго? Я цябе падвезці хачу да Мсціслава!

А бабуля і яшчэ на крок адскочыла.

— Ну, баба! Баішся мяне, ці што?

І то: стаялі самотныя дзевяності.

— Замерзнеш тут! Вымакнеш і замерзнеш!

Не, не падыходзіла. Але ж і не скакала больш.

— Навошта ты мне? Грошай у цябе няма…

— Няма грошай, няма…— нарэшце падала голас.

— Ну дык сядай. Скажаш дзякуй і досыць.

— А ты мяне не заб'еш?

— Ісці з-за цябе ў турму? З якой ласкі?

Маўчала.

— Аўтобус чакаеш? Не дачакаешся. Які аўтобус так позна? Сядай хуценька, няма ў мяне часу. Угаворвай яе…

Нарэшце зрабіла некалькі дробных крокаў да машыны. І зноў спынілася. Відаць, усё ж не было веры, што не заб'ю. А пажыць яшчэ трохі хацелася. Аднак і стаяць пад дажджом прыкра… Мо рызыкнуць?

— Сядай, сядай!.. Тут суха, цёпла. Музыка іграе. Даедзеш як паненка.

А бабуля ўжо стаяла ля машыны і ўглядалася ў мае вочы: бандыт ці не бандыт?

— Ну?!

Села. І адразу як прыляпілася да дзверцы. Маўляў, такая яна старая і маленькая, што забіваць аніякага сэнсу няма.

— Ды не бойся ты!

— Ды-ды-ды-ды-ды… — быў адказ. У руках яна мяла нейкі вузельчык — хутчэй за ўсё з невялічкімі грашыма.

Здавалася, я чую, як трымціць старое худзенькае цела.

— Чаго ў горад у такую пару і час?

Не, спрабаваць размаўляць яе было дарэмна.

Ад Мазалава да Мсціслава, хто не ведае, каля дзесяці кіламетраў. Праз чвэрць гадзіны засвяціліся агні горада.

— Куды табе, бабуля?

— Да магазіна…

— Якога магазіна?

— Вялікага…

Ага, падобна што да ўніверсама. Дарэчы, бабуля мая супакоілася, павесялела. І сапраўды, як не забіў па дарозе, не заб'ю і цяпер.

Спыніўся.

— Сыночак мой, — прамовіла, хаця была не старэй за мяне, — а я думала, біць будзеш… Я ўжо і вузельчык з грашыма прыгатавала, каб не біў… Дзякуй табе, — усхліпнула.

— Ці ж шмат грошай?

— Ды на цукеркі ўнукам.

— Ясна. Багатая. Бывай, бабуля.

Пайшла.

Вецер сціх, дождж скончыўся. На паваросе ў свеце фар я зноў убачыў бабулю. Ішла борзденька, нікога не баялася. Чаго баяцца? Горад. А дзяцюк, што падвёз, пэўна, усё ж бандыт. Але ж і сярод бандытаў бываюць добрыя людзі. А як што — вунь міліцыя, вунь выканкам і сабес.

### АЎТОГРАФ

Хто не ведае ў Мсціславе магазін «Колас»? Там і спыніў мяне незнаёмы мужчына, працягнуў руку.

— Як жыццё, як здароўе?

— Больш-менш.

— Як пішацца?

— Ну… Як калі.

— Надрукаваў што-небудзь новае?

— Вось новая кніга выйшла ў выдавецтве «Звязда». Ужо прадаецца ў кніжным.

— Гістарычная? Куплю. Ведаю прадаўшчыцу, Лена завуць. Я тут усіх ведаю. Колькі каштуе кніга?

— Дарагаватая. 130 тысяч.

— Ды ну!.. Якія гэта грошы! Цьфу… На харошыя кнігі грошы нельга шкадаваць. А я люблю гістарычнае. Дасі аўтограф на памяць?

— Няма пытання.

— Дамовіліся. Зайду.

Тэма была вычарпана, я падаў руку.

— Да сустрэчы?

— Ды пачакай! — ён моцна сціснуў маю далонь і не адпускаў. — Дай дваццатку да заўтра!..

Часам мы спаткаемся, усміхаемся, паціскаем рукі адно аднаму. Я забыў пра дваццатку, ён — пра кнігу. Усім добра.

### ЧАРАВІК

Вядома, спаткацца на вуліцы з добрым знаёмым — радасць. Спаткацца ў лесе — двойчы. А як заблукаў у лесе — тройчы. Вось і Марыя Дудак, калі заблукала з поўным кошыкам апенек, вельмі ўзрадавалася, як убачыла Кацярыну Капыток. Марыя хадзіла ўзад-уперад ужо добрую гадзіну, але ж дзень выдаўся хмарны, сонца не бачна, куды кіраваць невядома. А кошык вялікі, цяжка. І машын не чуваць. Толькі пошум дрэў. Што рабіць?

І тут пачула трэск галля, а праз хвіліну ўбачыла Кацярыну. Радасць! Амаль шчасце. Ішла яна таксама з поўным кошыкам.

— Ці ведаеш, дзе дарога? — спытала Марыя.

— Ды што тут ведаць? Вунь ускраек, свеціцца.

Чалавек Кацярына ў горадзе знакаміты: гадае, загаворвае, шэпча, прадказвае. Як зірне ў твар чорнымі цыганскімі вачыма — усё бачыць: і што было, і што будзе. «Вядзьмарка», — кажуць пра яе людзі. Прыязджаюць да яе нават з Магілёва, нават з Расіі, са Смаленска. Каму пашаптаць, каму пагадаць. Здаецца, якія вядзьмаркі ў дваццаць першым стагоддзі! А не, ездзяць. Вязуць грошы і беларускія, і расійскія. Як тут не пашэпчаш, не зірнеш у дурныя вочы?

Жанчына Кацярына гаваркая. Распавяла падрабязна пра сваё жыццё, пра жыццё знаёмых, суседзяў, пра тое, хто з кім пасварыўся, што было ўчора і што будзе заўтра. А вось ускрайку ўсё не было відаць. Марыя слухала ўважліва, але ж раптам спынілася перад паваленым дрэвам. Кацярына таксама спынілася ды змоўкла. Рэч не пра паваленае дрэва, а пра чыйсьці стары чаравік ля яго. І яны ўжо гэты чаравік бачылі! Падзівіліся: як гэта? Хтосьці згубіў і далей паскакаў на адной назе?

Ну а як убачылі той чаравік у трэці раз…

— Так… — прамовіла Марыя. — Недзе тут паблізу чорт. Водзіць!

Сказала быццам жартам і тут жа ўспомніла, што… Падазрона паглядзела на Кацярыну. Хто яе ведае, мо яна і сапраўды чараўніца! Тады пра чорта лепш не ўзгадваць.

— Ну і дзе твой ускраек?

— Ды вунь, свеціцца!

Пайшлі, дакладней — папёрліся, бо ногі ўжо ісці не хацелі. Кацярына працягвала мянташыць языком нямаведама пра што. Ні на хвілінку не змоўкне! А ці не загаворвае яна мне зубы? — падумала Марыя. Для чараўнікоў спатканне ў лесе з чалавекам, асабліва як ён стаміўся ды пад вечар, — удача. Такое можа зрабіць… Карацей, вернешся дамоў з кошыкам паганак.

Тут Марыя ўспомніла, што любыя нячысцікі баяцца царквы. А тут недалёка Пустынскі манастыр. Во куды трэба ісці! Ды каб жа ведаць, у якім баку!

— Не, — сказала, — далей з табой я не пайду. Пайду да манастыра.

— Машка, не выдумляй! Прыйшлі ўжо! Вунь свеціцца!

Але Марыя ўжо кіравала ў другі бок і на аніякія покліч не адгукалася.

Доўга яшчэ яна блукала па лесе. Не адзін раз натыкалася на той чаравік. Толькі пад вечар, як пачало цямнець, выйшла на дарогу каля Пустынак, проста насупраць званіцы. Ледзь не заплакала ад радасці. Ясна, то Кацярына вадзіла яе. Села на траву адпачыць, даць нагам волю. І тут убачыла: амаль след у след выходзіць з лесу Кацярына.

— І ты тут! — узрадавалася Марыя. — А чаравік той быў твой! — сказала яна ды перахрысцілася на званіцу манастыра.

### НЕ ЎРАДЗІЛІ

Такі ўжо выдаўся год. Урадзіла бульба, поўны лес грыбоў, а яблык столькі — няма куды дзець. Прыйшлося нават закапваць. Толькі і гаворкі што пра бульбу, яблыкі, грыбы. А пра грошы — не. Што пра іх гаварыць. Не ўрадзілі!

### РЫБАЛКА

Мікола Ахрэмчык — вядомы рыбак сярод рыбакоў. Кожную рыбіну ён замярае, узважае, фатаграфуе мабільным тэлефонам і запісвае ў спецыяльны нататнік дзень, нават гадзіну. А напрыканцы года падбівае рахунак.

Ёсць у яго мапед, так што дзесяць — дваццаць кіламетраў — не праблема. Мапед добры, на два месцы, таму калі-небудзь бярэ з сабой унука Колю. Вось і цяперашнім бабіным летам прыехалі да невялікага возера ля вёскі Дурысаўка, падрыхтавалі вуды. Але закінуць не паспелі: бяжыць да іх нейкая цётка.

— Па пяць тысяч з вас, — прамовіла. — Цяпер тут платныя ловы.

— Ці ты здурэла, цётачка? — здзівіўся Мікола. — За што табе грошы?

— Старшыня гаспадаркі так рашыў. Вось і квітанцыі ёсць. Казаў, так у Амерыцы: злавіў рыбку — плаці.

— А твой старшыня з глузду не з'ехаў?

— А хто ж яго ведае? На першы погляд — не. Мне самой няёмка грошы збіраць. Але ж загад ёсць загад. Давай грошы.

— Во табе, а не грошы, — прамовіў Мікола і паказаў вядомую канфігурацыю з трох пальцаў. А яшчэ слоўца нейкае непрыемнае дадаў.

— А, дык ты сварыцца? Зараз патэлефаную старшыні, — і дастала з кішэні тэлефон. — Я яшчэ і сфатаграфую цябе!

І насамрэч — пстрыкнула. А потым набрала нумар і загаварыла.

— Ну вось, — прамовіла з задавальненнем. — Зараз брыгадзір прыедзе з участковым. Арыштуюць цябе. Пратакол напішуць. Лепш давай грошы, пакуль не позна.

— Во табе! — паўтарыў Мікола.

— Дзеда, давай паедзем, — раптам падаў голас унук, што да гэтай пары разгублена пазіраў на іх. — Не хачу я гэтай рыбалкі.

— Правільна, унучак, — пагадзіўся Мікола. — Хай яны… хай… амерыканцы чортавы… — так расхваляваўся, што заблытаў лёску, а бляшанку з чарвякамі шпурнуў у ваду.

Селі і як мага хутчэй пакацілі дамоў.

Праз колькі дзён прайшла чутка, быццам старшыня райвыканкама дазнаўся, што робяць кіраўнікі гаспадарак, і забараніў браць з рыбакоў грошы. Быццам моцна раззлаваўся старшыня і гукнуў на нарадзе:

— Мы не амерыканцы!

Дык іншая справа! Малайчына гэты старшыня. Кажуць, усё раённае начальства трымае ў кулаку.

У такім разе можна зноў з'ездзіць. Але ж грошы на ўсякі выпадак узяў.

Падрыхтаваўся, падняў унука на золку. Прыехалі, закінулі вуды. Раніца была цудоўная, цёпла, ціха — прыгожае бабіна лета. Птушкі пасвіствалі, жабкі ля берага пацмоквалі. Добра! Вось-вось пачнецца клёў.

Здалёк пачуўся рокат легкавіка. Што ні кажы, а гул тэхнікі супярэчыць прыродзе. Не кажучы ўжо пра мярзотны пах бензіну. Але ж такі час. Сам вунь не пешкі прыйшоў, а прыкаціў на мапедзе.

Вунь ён, той легкавік. І чамусьці кіруецца ўздоўж берага наўпрост да іх.

Спыніўся. Выйшаў ускудлачаны, нібыта спрасонку, мажны мужык.

— Лавіць рыбу забаронена! — раўнуў, як не пакашляўся. — Возера — маёмасць гаспадаркі!

Усё ж такі добра, што падрыхтаваў грошы. Не хацелася зноў расчараваць унука. Дастаў дзесяць тысяч. Падумаў і адну купюрку схаваў. Хопіць з іх пяць.

— Бярыце, — прамовіў. — Квітанцыі не трэба.

Аднак мужчына пазіраў на яго непрыязна.

— Я табе што кажу? Забаронена!

— Дык я плачу!

— За-ба-ро-не-на!

Сонейка, калі вяртаўся Мікола з унукам, яшчэ толькі-толькі паднялося над небакраем. І па дарозе яны вырашылі паехаць на рэчку, на Віхру, там таксама неблагая рыбалка. Рэчку, дзякуй богу, яшчэ ніхто не надумаўся прыватызаваць. Больш ён да гэтай Дурысаўкі — ні нагой. А яшчэ карцела Міколу напісаць ліст старшыні выканкама. Хай падсыпле гарачых гэтым амерыканцам.

# Малая гісторыя жахаў

**У англамоўнай літаратуры другой паловы XVIII стагоддзя на хвалі рамантызму ўзнікае новая плынь, якая атрымала назву гатычнай. Творы, напоўненыя жахамі і містыкай, набываюць такую папулярнасць, што пісьменнікі пачынаюць ствараць пароды на гатычны раман, напрыклад, «Нортэнгерскае абацтва» Джэйн Осцін.**

## З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ГОТЫКА

Беларускае прыгожае пісьменства не адставала: пераймаючы набыткі заходнееўрапейскай літаратуры і культуры памежнага перыяду XVIII — XIX стагоддзяў, выпрацоўвала ўласнае бачанне готыкі. Так у XIX стагоддзі нараджаецца беларускі гатычны раман.

Містычна-фантастычныя элементы ў літаратурнай творчасці пачаў выкарыстоўваць беларуска-польскі паэт Юзаф Бака. І, варта адзначыць, прыкладна ў той самы перыяд, што і Хорас Уолпал, першаадкрывальнік жанру. Асабліва заўважныя гатычныя матывы ў зборніку паэзіі Ю. Бака «Роздум пра непазбежную смерць» (1766), у якім аўтар паказвае дэманічную ўсемагутнасць смерці. Тым не менш знаўцы адносяць яго творчасць да метафізічнай паэзіі позняга барока, а самі творы характарызуюць хутчэй як гратэскныя.



Што да прозы, то першай прыстасаваць да мясцовых рэалій паспяховы ў Заходняй Еўропе жанр паспрабавала Ганна Барбара Мастоўская-Радзівіл. На жаль, сёння гэтае імя мала знаёма беларускаму чытачу. Пісала ў Заслаўі, друкавалася ў Вільні, дзе ў 1806 годзе і выйшаў яе першы зборнік (на польскай мове) пад агульнай назвай «Мае забавы» («Moje rozrywki»). У кнігу ўвайшоў шэраг таямніча-прыгодніцкіх аповесцей «Не заўсёды так робіцца, як гаворыцца», «Замак Канецпольскіх», «Матыльда і Даніла» і іншыя. Для твораў Г. Б. Мастоўскай-Радзівіл характэрна паглыбленне ў гісторыю: падзеі разгортваюцца на фоне рыцарскіх турніраў, паляванняў, пышных баляў, а тэрыторыяй ім служаць класічныя для жанру старажытныя замкі з падземнымі хадамі і гатычныя вежы, кляштары і паганскія капішчы. Натуральна, знаходзіцца месца і для радавых праклёнаў, пры гэтым злачынствы зазвычай караюцца.

У сярэдзіне XIX ст. Ян Баршчэўскі ўдала скарыстаў гатычныя матывы ў сваім надзвычай багатым на містычныя гісторыі зборніку «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844 — 1846). Дасціпна і па-мастацку аўтар вымалёўвае вераванні жыхароў паўночнай Беларусі, у фантазіях якіх блукаюць нядобрыя духі. Паданні і міфы расказваюць пра ваўкалакаў, пярэваратняў і чарнакніжнікаў («Пра чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем», «Вужыная карона», «Плачка», «Валасы, якія крычаць на галаве»). Ян Баршчэўскі прытрымліваецца асноўнага прынцыпу гатычнай літаратуры: містычнае пераплятаецца з рэальным, фантастычнае — побач. Ужывае ён і такі ход, прыняты ў літаратуры жахаў, як разгортванне падзей у замкнёнай прасторы: панскім палацы, шляхецкім доме, аддаленым фальварку ці ў карчме.

Дарэчы тут згадаць напаўмістычны верш Янкі Купалы «Забытая карчма» (1907). Натуральна, творчасць паэта нельга аднесці да готыкі, але і абыходзіць уплыў апошняй не варта. Так, у названым вершы Янка Купала ўзгадвае, што, як настае поўнач і людзі засынаюць, у карчме адбываецца гулянне чарцей, ведзьмаў ды ваўкалакаў — пакуль не пракрычыць певень. Варта назваць яшчэ адзін яго верш — «Хохлік» (1911), дзе паэт звяртаецца да народнай міфалогіі з элементамі містыкі: «...Ваўкалак за дамавінай выпаўзае па пуціну... Хохлік грае, ведзьма скача, ноч смяецца, сонца плача…».

## САВЕЦКІЯ ЖУДАСЦІ

У 1923 годзе з'яўляецца аповесць Вацлава Ластоўскага «Лабірынты», напоўненая элементамі містыкі і беларускай міфалогіі, загадкавая і таямнічая. Тут і легенды пра падземныя хады і дзівы, схаваныя ў іх, і пошукі скарбаў, у прыватнасці полацкай бібліятэкі. Эфект злавеснасці, уласцівы гатычнаму жанру, В. Ластоўскі трапна выкарыстоўвае ў эпізодзе, калі вандроўнікі даходзяць да дубовай труны, на якой чытаюць такі надпіс: «Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці, моцай слоў тайных, на пілнаванне давечнае ўвязаў тут. Хай уносячага сюды прапусцяць, а на вынасячым споўніцца слова». Наогул, у «Лабірынтах» В. Ластоўскі раскрыўся як знаўца беларускай гісторыі, этнаграфіі, міфалогіі і, што нечакана ўражвае, народнай астраноміі, звязанай са славянскім алімпам дахрысціянскіх бостваў. Аповесць «Лабірынты» стала тагачасным узорам рамантычнай прозы на гістарычную тэму. Але даследчыкі так і не прыйшлі да адзінага меркавання пра жанравую прыналежнасць «Лабірынтаў»: філасофская гэта аповесць ці дэтэктыў, гістарычна-прыгодніцкая або містычная проза?

Містыкай, настоенай на гісторыі, прасякнутыя многія творы Уладзіміра Караткевіча. Менавіта па яго аповесці зняты першы беларускі фільм у жанры готыкі — «Дзікае паляванне караля Стаха». Аднайменны твор адпавядае ўсім канонам жанру гатычнага рамана: сівыя змрочныя легенды і радавыя праклёны, адпаведная атмасфера і антураж. І, канечне, надзвычай удала вытрымане пачуццё напружанасці: «Калі я прачынаўся — я чуў у калідоры крокі Малога Чалавека і часам яго ціхі жаласны стогн. А пасля зноў чорная бездань цяжкага сну, і зноў скача па верасе і дрыгве імклівае, як страла, паляванне». Змрочнасць уласцівая і некаторым яго вершам. Напэўна, асабліва гэта адчуваецца ў вершы «Прарок Геронім Босх»: «…Сваёй неўтаймоўнай фантазіяй выклікаў ён пачварныя здані... Праз трэшчыны на палотнах чуюцца гукі рыданняў…». Падобная атмасфера і ў рамане «Чорны замак Альшанскі», асабліва — у апісанні замка з яго прывідамі («Кожную поўнач такую ў замку, што стыгне ад жаху, па галерэях праходзяць дама з чорным манахам») і ў апісанні саміх прывідаў, якія наводзяць смяротны жах на выпадковых мінакоў («…іхнія прывіды ходзяць пад аркадамі замка, чула і цяжка ўздыхаючы і палохаючы стогнамі добрых людзей»). За раман «Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіч у 1984 годзе быў пасмяротна ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа, а на нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Міхаіл Пташук зняў паводле твора аднайменны двухсерыйны мастацкі фільм.



## ЧЫМ ПУЖАЮЦЬ СЁННЯ

З сучасных аўтараў, якія паспяхова працуюць у жанры готыкі, перадусім вылучаецца Людміла Рублеўская. Яе раман «Скокі смерці» (2011) пачынаецца радкамі з верша У. Караткевіча, а з першых радкоў самога рамана мы трапляем у царства жахаў і таямніц: «Яны круціліся ў вар'яцкім карагодзе вакол ратушы ўжо дзясятую гадзіну. Неба зрабілася чырвоным, як распаленае жалеза. Цяжкі дым вогнішчаў, якімі адпалохвалі пошасць, слаўся па бруку, нібыта душы, што дарэмна праглі перад смерцю апошняга прычасця, не хацелі пакідаць зямлю...». Тут сплятаюцца готыка, дэтэктыў, гістарычнае фэнтэзі — і каханне. Што да кахання ў стылі готыкі, тут найперш трэба звярнуць увагу на, як яго называе сама Л. Рублеўская, «жахлівае апавяданне» — «Жаніх панны Данусі» (2003). Жаніх пекнай выпускніцы жаночай гімназіі панны Данусі — шляхетны Генусь — падчас інспекцыі чыгункі загінуў у спушчаным пад адхон эсэрамі цягніку. Але ў той жа вечар прыязджае за ёй на бліскучым, як калядная ёлка, аўтамабілі — шыкоўным увасабленні прагрэсу. І адвозіць яе на Кальварыйскія могілкі, да суровага псеўдагатычнага будынка касцёла, каля сцен якога і распавядае сваю жудасную гісторыю, што ён не жывы, а спакутаваны заказаны дух.

Звернем увагу на яшчэ адзін твор Л. Рублеўскай — «Ночы на Плябанскіх Млынах» (2006), — да якога можна правесці паралелі з гісторыямі «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага. Так, твор пабудаваны на містычных гісторыях Мінска, гарадскіх легендах, якія сябры распавядаюць па чарзе, седзячы ўвечары пры свечках у старым доме.

Містычна-дэтэктыўны сюжэт заклаў у аснову рамана «Праклён» (2013) Валеры Гапееў. Аўтар паспрабаваў па-новаму зірнуць на фальклорную і гістарычную спадчыну беларусаў. Раман пра сучаснасць, але містычнае і міфалагічнае ў ім шчыльна пераплецена з рэчаіснасцю і з'яўляецца неад'емнай часткай жыцця. Адзін з галоўных герояў, вясковы хлопец, дом якога згарэў разам з яго братам, застаўся апошнім у родзе. Разбіраючы пажарышча, ён знаходзіць металічны амулет-артэфакт, які ўрэшце прыводзіць хлопца ў таемнае брацтва. Высвятляецца, што побач з намі жывуць ведзьмы і пярэваратні, квітнее папараць-кветка і прымаюць ахвяры камяні-алтары. Так аўтар раскрывае нацыянальны характар беларусаў і заклікае не забывацца пра нашу гісторыю, бо грэбаванне народнымі традыцыямі, адмова ад уласнай культуры могуць стаць праклёнам для людзей.

Містычная аснова закладзеная ў дэтэктыўных раманах Вольгі Тарасевіч, падзеі ў якіх разгортваюцца вакол старажытных артэфактаў. Урыўкі гісторыі ўдала спалучаюцца з сучаснасцю. Так, напрыклад, дзеянне твора «Абярэг Святога Лазара» (2012) разгортваецца падчас здымкаў тэлепраекта, які нагадвае папулярнае тэлешоу «Бітва экстрасенсаў», а ў вобразах некаторых герояў кнігі лёгка пазнаць рэальных асоб. З пункту гледжання гатычнага рамана, цікавасць выклікае і раман «Карты вялікага чараўніка» (2014), сюжэтная лінія якога развіваецца вакол калоды карт Таро вядомага англійскага акультыста Алістэра Кроўлі, стваральніка калоды «Таро Тота». У рамане В. Тарасевіч таямнічая калода карт, над якой чорны чараўнік працаваў пяць гадоў, нечакана знаходзіцца ў нашы дні. Карты, якія валодаюць велізарнай сілай, выконваюць любое жаданне ўладальніка, — і патрапляюць яны ў кепскія рукі. Дэтэктыву трэба адшукаць злачынцу.

Гатычная літаратура дастаткова папулярная і ў нашыя дні. Творы такога жанру разлічаны на тое, каб закранаць самыя моцныя эмоцыі, уласцівыя кожнаму з ранняга дзяцінства: гэта страх і вытворная ад яго трывога. Але ва ўсім гэтым прысутнічае і прыгожае, бо сярод жудасцей і смерцяў заўжды знаходзіцца месца каханню (самы яркі прыклад — «Дракула» Брэма Стокера). Акрамя таго, падобныя творы змяшчаюць прыгожыя апісанні краявіду, часта — твораў мастацтва. Зрэдчас можна сустрэць нават камічнае (іранічны раман жахаў А. Жвалеўскага і І. Мыцько «Тут вам не ўчыняць ніякай школы», 2006). Таму не будзе засмелым сцвярджаць, што, з'явіўшыся аднойчы, гатычная літаратура будзе жыць яшчэ вельмі і вельмі доўга.

**Алег ГРУШЭЦКІ,**
**малюнкі Алесі ІСЫ**



Жанр гатычнай літаратуры ўзнікае у другой палове XVIII стагоддзя. Першапачаткова атрымаў развіццё ў англамоўнай літаратуры.

Гатычны раман напоўнены таямнічымі містычнымі падзеямі, прыгодамі, змяшчае фантастыку і элементы звышнатуральных «жахаў».

Сваё найменне жанр атрымаў у сувязі з адмысловай цікавасцю да «готыкі» сярэднявечча. Фарміраваўся ён на ўяўленнях аўтараў таго часу пра свет як арэну барацьбы супрацьлеглых пачаткаў — дабра і зла, Бога і д'ябла.

Падзеі гатычнага рамана разгортваюцца ў сярэднявечных замках, манастырах, цэрквах і капліцах, падзямеллях, сутарэннях, на фоне змрочных пейзажаў, што надае апавяданню загадкавасць, узмацняе эмоцыі страху і злавеснасці.

Першаадкрывальнікам жанру лічыцца англійскі пісьменнік Хорас Уолпал, аўтар кананічнага гатычнага рамана «Замак Отранта» (1764). У Вялікабрытаніі 1764 — 1820-х гадоў убачылі свет сотні гатычных раманаў.

Даследчыкі вылучаюць у гатычным рамане некалькі напрамкаў: уласна гатычны раман, раман напружання і трывогі, раман жаху, усходняя аповесць жаху і інш.

Мастацкі вопыт гатычнага рамана паслужыў з'яўленню навукова-фантастычнага, авантурна-прыгодніцкага, гістарычнага і дэтэктыўнага рамана.

# Мапа горада ў руках смерці

Кажуць, што пачынаць з цытаты — кепскі тон. Але, распавядаючы пра гэтую кнігу, немагчыма не згадаць Плутарха, які вучыў: трэба асцерагацца варажнечы з тым горадам, у якога ёсць паэты і драматургі. Пад словам «ёсць» разумеюцца паэты і драматургі, якія гэтым горадам жывуць. Якія любяць яго бязмерна.

У слаўнага горада Мінска ёсць Антон Рудак.

Праўда, ці толькі пра Мінск піша «вечна малады літаратар» (самаазначэнне паэта) у дэбютным «Верхнім горадзе»?

Да гэтага пытання мы яшчэ вернемся, а пакуль — колькі слоў пра спецыфіку дэбюту.

Сапраўдная літаратурная прэм'ера Антона Рудака адбылася гадоў пяць таму, на старонцы ў Жывым Часопісе. Адтуль вершы пайшлі ў масы. Такім чынам, мы маем справу не з кніжкай, якая пачынае ствараць паэта, але з паэтам, які нарэшце стварыў кніжку.

Першай кнігай усякага літаратурнага творцы варта лічыць кнігу не першую па ліку, але першую, за якую яму самому не будзе сорамна гадоў праз дзесяць. «Верхні горад», як мне думаецца, шчаслівае супадзенне: у ім сыходзяцца абодва азначэнні. З іншага боку, ці можна называць простым супадзеннем тое, да чаго аўтар ішоў пяць гадоў?

Сабраныя пад адной вокладкай вершы — часцей за ўсё гэткія маленькія маршы па горадзе, разняволеныя шпацыры, міжчасавыя палёты і экспедыцыі ў мінуўшчыну — ствараюць нечаканы эфект. Паасобна яны ўспрымаліся як «маладыя-бадзёрыя» творы — нават калі распавядалі пра трагічнае. Адмысловая рытміка надавала ім настрой, які не разжальваў чытача, наадварот: пасля радка «аднойчы мы станем даваць праўдзівыя сведчанні» з верша-маналога расстралянага творцы плакаць зусім не хочацца. Хочацца спраўдзіць аказаны табе глыбокі давер.




І вось, калі ўсе гэтыя поўныя энергіі вершы збіраюць разам і вы справядліва чакаеце вялікага, нечуванага выбуху, выбух не адбываецца.

Таму што «Верхні горад» — гэта лірычная кніга, самая лірычная з усіх, якія мне давялося прачытаць у сыходзячым годзе — нягледзячы на яе індустрыяльныя эскізы, грукат цягнікоў і крывавыя сляды між радкоў.

У адным творы складана было разгледзець гэтую — не пабаюся страшнага слова — шчымлівую, пранізлівую лірыку. Яна заглушалася ваеннымі стрэламі, хавалася за літаратурнымі фокусамі. Адзін з найлюбімейшых у Антона Рудака — гульня з сэнсамі, калі пераносны ўжываецца ў якасці літаральнага; на гэтым будуецца большасць метафар:

*«У светлы край юнацтва*
*ёй дзверы прыадчыняць*
*скрыпічныя ключы»*
*(«Бабуля слухае музыку»)*

*«Плошча свабоды роўная суме выпітага» («Рэвалюцыйная»)*

*«Мы не раскопваем курганоў*
*і не рабуем магільнікаў —*
*нам з галавою хапае шкілетаў*
*між пылу фамільных архіваў»*
*(«Станцыя Беларусь»)*

Мінск «Верхняга горада» — не проста і не толькі горад. Калі сярэднестатыстычны пачатковец піша пра любоў да Радзімы ў цэлым, звяртаючыся час ад часу да пэўнай вёскі, рэчкі, сцяжыны, то Антон Рудак (якога і пачаткоўцам назваць можна хіба што ўмоўна) аддае ўсю сваю любоў аднаму Менску (менавіта Менску, не Мінску), і прыватнасцямі ў яго выпадку робіцца вуліцы, многіх з якіх цяпер няма, дамы, сярод якіх шмат прывідаў, Няміга з яе чароўнай песняй, семафоры, якія, калі пільна ўглядзецца, могуць гарэць і чорным святлом, цягнікі, што ідуць на захад, палі палётнае і футбольнае — дробязі, дробязі, дробязі, без якіх рассыплецца паэзія горада. Паэт віртуозна арыентуецца не толькі ў самім горадзе, але і ў розных яго часах, аддаючы перавагу, канечне, мінуламу. Канечне, ваеннаму.

Людзі таксама цікавяць Антона Рудака, хоць і крышачку менш за Горад. Гэтыя людзі, жывыя і мёртвыя, размаўляюць з намі праз вершы, так што паэт робіцца медыумам, прычым — добрым. Калі прыняць за аксіёму існаванне прывідаў і здольнасць іх уступаць у кантакт з жывымі, то ўсіх медыумаў можна падзяліць на сапраўдных і шарлатанаў. Шарлатан робіць выгляд, што прамаўляе ад імя памерлых, хоць вы чуеце выразна яго ўласны голас з затоенымі ў ім жаданнямі і страхамі. Медыум сапраўдны не стане нагнятаць атмасферу выкрыкамі і трагічнымі ўздыхамі: людзей закране тое, што ён гаворыць.

Словам, галоўнае цяпер — каб Антон Рудак, маючы сантымент да гісторыі, не пачаў пісаць пафасныя маналогі ад імя вядомых нябожчыкаў.

Зрэшты, яго нябожчыкі якраз не вядомыя: гэта сціплыя людзі, якія хацелі кахаць і танчыць, а давялося паміраць. Праўда, ёсць у «Верхнім горадзе» і выбітныя асобы, але паэт, маючы пачуццё меры і гумару, не стаў прамаўляць ад іх імя. Галоўны ў гэтым пантэоне вобразаў — Уладзімір Караткевіч.

*«Сумны хлопчык сядзеў*
*на адхоне Дняпра,*
*а краіна драмала ў снягах*
*за ракою».*
*«…ён пайшоў — і адзін*
*нарадзіў Беларусь.*
*І для першага разу —*
*някепска ўдалося».*

Так, Караткевіч «адзін нарадзіў Беларусь», а Рудак, карыстаючыся яго ж метафорыкай, нараджае новы Менск — як ні парадаксальна, са старога. Праўда, робіць ён гэта не адзін (хоць і Караткевіч не быў ужо такім самотнікам). Напрыклад, некаторыя вершы з «Верхняга горада» нагадваюць паасобныя месцы з кнігі Артура Клінава «Горад сонца». «Раннія» вершы Антона Рудака, датаваныя 2009 годам, пакараткевічаўску рамантычныя і напеўныя, але чым далей, тым больш сустракаецца збояў — наўмысных, канечне. У такой надламанай, шорсткай рытміцы выразна бачыцца ўплыў творчасці Андрэя Хадановіча, як і ў схільнасці да слоўных штукарстваў. Больш глыбокім бачыцца мне ўплыў Сергія Жадана — ён адчувальны не толькі ў знешнім, але і глыбока ў радках, у інтанацыях, у той самай шчымлівасці, пра якую казалася вышэй. І як не згадаць, што Антон Рудак вялікі прыхільнік згаданага ўкраінскага паэта.

У сваёй любові да Мінска Антон Рудак не прызнаецца наўпрост. Ён не кідаецца гучнымі словамі, пазбягае напышлівага і пафаснага, бо ўсё гэта нявартa пачуцця, якое ўкладаецца ў верш. Наадварот, паэт усяляк адцяняе гэтае пачуццё іроніяй і сціплай, кранальнай лаянкай.

Вершы пра Горад, вершы пра Людзей. Што яшчэ? Не паверыце, але — вершы пра каханне. Калі б у іх не было прывабнай самаіроніі і тых самых літаратурных фокусаў, якія ўтвараюць стылістычную звязку паміж гэтымі вершамі і тымі, то яны падаліся б лішнімі ў «Верхнім горадзе».

На гэтым можна было б скончыць рэцэнзію, пажадаць удачы аўтару і паставіць кропку.

Але.

Але ў «Верхнім горадзе» ёсць аднайменны верш, які адкрывае новы сэнс назвы зборніка, адкрывае новы ўзровень топасу, надае іншае гучанне ўсёй кнізе.

*«вер — мы сустрэнемся*
*ў горадзе*
*дзе ліхтары адбіваюцца*
*ў хмарах*
*мы сядзем на вoблаку*
*і пагаворым*
*бязлюдныя вуліцы*
*ўкрые туманам*
*мы будзем прыпальваць*
*проста ад зорак…»*

Элегія, якая чытаецца лёгка (гэта ж элегія!..), раптам абарочваецца вусцішным: «Спі спакойна, мой верхні горад / веру — усе там будзем».

Уражанне, створанае двума радкамі, настолькі моцнае, што нават у жыццесцвярджальных вершах пра сяброў і юнацтва пачынае гучаць голас смерці. Як даўней незаўважанай заставалася і нечакана раскрылася пяшчота, так цяпер на першы план выходзіць Смерць. І гэта не флірт маладога паэта з кашчавай пані. Ён не крычыць, што летнім надвячоркам засіліца на сваім рукаве, не піша, што паміраць — не ў навіну. Проста нагадвае, што аднойчы «усе там будзем». Смерць — паўсюль: яна спускаецца з Кальварыі; на разбітым трамвайчыку, на які наш аўтар назаўжды спазніўся, катаецца па горадзе; яна разглядае руіны і магілы, зроўненыя бульдозерамі; яна глядзіць з жоўтых фотаздымкаў і вершаў «Верхняга горада».

Слова «смерць» на 80 старонках паўтараецца 13 разоў, «магілы/могілкі» — 9, кроў — з дзясятак; дзеясловаў, якія абазначаюць гібель, тую ж смерць, — пад 40. І гэта толькі прыблізны падлік. Калі ж казаць пра вершы, у якіх мартальнага няма зусім, іх не збярэцца і дзесяці.

Суседства смерці і жыцця, Мінска і «верхняга горада», жывых і нябожчыкаў надае незвычайнае характсво — жудаснае, і тым больш прыцягальнае, — гэтай кнізе. Усе мы памятаем, што будзе, калі доўга ўглядацца ў бездань. Антон Рудак углядаецца — з вышыні свайго «верхняга гораду» — і апісвае яе, маляўніча, з любоўю...

**Наста ГРЫШЧУК**

# Жывёльная камедыя

**Калі вы чытаеце апавяданне, пабудаванае на «жывёльнай» алегорыі, можаце быць упэўнены: аўтар яго — Юры Станкевіч. Упэўненасць гэтая будзе расці з кожным новым натуралістычным апісаннем і з кожным навуковым фактам, прыведзеным у тэксце быццам бы незнарок: маўляў, паглядзіце, якая цікавая штука!..**

Многія крыўдзяцца, калі паміж чалавецтвам і жывёльным светам праводзяць знак роўнасці. Вы можаце згаджацца з дарвінаўскай тэорыяй паходжання відаў, называць жывёл братамі нашымі меншымі, паўтараць за Кіплінгам — шчыра ці з саладжавым замілаваннем — «мы з табой адной крыві». І ўсё ж: ці застанецеся вы абыякавымі пасля параўнання са зверам, насякомым, птушкай, асабліва калі гэта не леў, не працавітая пчала і не арол? Калі гэта — зязюльчын падкідыш, састарэлы пацук ці незвычайная парачка, адна назва якой выклікае агіду: жук-чарнацелка і лічынка-валасацік. Непрыемна, ці не так? Юры Станкевіч цудоўна гэта ведае.

Пісьменнік, захапляючыся навукай (збольшага — біялогіяй), кожны вычытаны факт прымервае да чалавечай прыроды, і калі маска жывёлы пасуе чалавеку, спадар Юры захоплена бярэцца за пяро і стварае алегарычны тэкст пра заганы і беды роду людскога.

Такім чынам, у хуткім часе мы можам чакаць зборнік апавяданняў пад агульнай назвай «Жывёльная камедыя». Чаму б і не?

Тры апавяданні Юрыя Станкевіча, надрукаваныя ў «Нёмане» № 11, маюць жывёльны шкілет, аброслы чалавечымі цягліцамі. Ці наадварот: чалавечую «белую» костку, пакрытую мясам звера, поўсцю, пер'ем і змяінай скурай?.. Вырашаць чытачу, кожнаму — асобна, у залежнасці ад яго светапогляду, песімістычнага ці аптымістычнага.

«Яйка зязюлі» — апавяданне з самай празрыстай у падборцы назвай. Гісторыя прыёмыша ў сям'і, якая так і не здолела стаць сям'ёй, магла б быць банальным апавяданнем, калі б напісаў яе не змрочна-рэалістычны Станкевіч. Зязюльчын падкідыш не проста гадуецца ў чужым гняздзе — ён імкнецца вынішчыць усіх астатніх, і калі іншых птушанят, акрамя яго самога, няма, пад пагрозай апынаюцца наіўныя і добрасумленныя бацькі. Здагадка, якая працінае гераіню напрыканцы навелы (па ўсіх прыкметах, гэта ўсё ж не апавяданне, як і «Жук-чарнацелка»), пераварочвае свет твора. У выніку чытач можа паставіць пад сумненне адвечнае «падстаў другую шчаку» — але гераіня робіць менавіта так.

Апавяданне «Мільярд удараў» не менш змрочнае і безвыходнае, калі не лічыць выйсцем пераход на той свет. Бязмэтнасць існавання, хіжасць і чэрствасць, бездухоўнасць робяць героя пераапранутым у чалавечую скуру пацуком. Роўнасць паміж зверам і чалавекам падкрэсліваецца вельмі яркай, таленавітай паралеллю: сэрца любой істоты за ўсё жыццё робіць у сярэднім мільярд удараў. Нягледзячы на яўную непрывабнасць, герой не выклікае асуджэння: хто стане дакараць пацука? І што ўвогуле можна патрабаваць ад несвядомай істоты, якая, нават ідучы на грэх, не можа патлумачыць, навошта гэта робіць?

«Жыццё непадсуднае», — робіць выснову следчы Локас, знішчае значную ўліку і ратуе забойцу, тым самым ілюструючы яшчэ адзін запавет: не судзі. Тая ж думка ляжыць у аснове іншага твора Юрыя Станкевіча — аповесці «Паўночны вецер для спелых пладоў», што таксама нядаўна друкавалася ў часопісе «Нёман» (павіншуем аўтара з дзвюма ўдачамі запар).

Выкрываючы гніль, пазбавіцца якой можна «толькі выпальваючы яе агнём альбо пакідаючы поле бою», пісьменнік карыстаецца аксіёмай «жыццё непадсуднае» як шчытом, што засцерагае яго ад павучальнага тону і натуральнага для ўсякага чалавека жадання асудзіць зло. Як мастак ён застаецца аб'ектыўным і дзякуючы гэтаму застаецца мастаком.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Каралеўства лістоў ды газет

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Ну і класічны варыянт: прыйсці ў любое аддзяленне паштовай сувязі і самому пагартаць каталогі. Ці патэлефанаваць ды запрасіць паштальёна дадому ў зручны для сябе час.

**— Для якіх катэгорый насельніцтва існуюць падпісныя льготы?**

— Шмат якія рэдакцыі з самага пачатку ў каталогу вызначаюць зніжкі для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, пенсіянераў, інвалідаў. Акрамя таго, выдзяляюць льготы сваім пастаянным падпісчыкам.

**— Ці плануецца павышаць кошт паслуг «Белпошты» ў будучым годзе?**

— Гэта залежыць ад знешніх абставін, ад таго, як будзе развівацца рынак наогул. Але з упэўненасцю магу сказаць, што вялікіх змен тут не чакаем.

**— Якія «сакрэты» ў прыцягненні падпісчыкаў?**

— Вельмі важныя ў гэтай справе добра спланаваныя рэкламныя акцыі, дзе галоўнае — не колькасць адпушчаных сродкаў, а якасць падрыхтаванай інфармацыі і, канечне, самі выданняў. Ды і трэба шукаць «сваіх» чытачоў. У такой колькасці СМІ, якая даступна сёння нашаму насельніцтву, цяжка не разгубіцца. Урэшце нішу займае той, хто больш яскрава і настойліва пра сябе заявіў. Карацей кажучы, трэба ісці «ў народ». «Белпошта» праводзіць па ўсёй краіне дні падпісчыкаў, дзе прэзентаваць выданні могуць усе рэдакцыі і выдавецтвы. Дарэчы, мы разлічваем на актыўны ўдзел гэтых арганізацый і ў падпісных акцыях на буйных прадпрыемствах рэспублікі.

**— Як цяпер трансфармуецца паслуга па выкананні і атрыманні лістоў?**

— Здавалася б, у наш час электронныя пасланні і інтэрнэт замянілі свае папяровыя аналагі, але з радасцю магу зазначыць, што колькасць традыцыйных лістоў не толькі не зменшылася, а, наадварот, расце! Эмоцыі ад атрымання ліста альбо паштоўкі, якія адрасант выбіраў з любоўю і падпісваў шчырымі словамі, нельга параўнаць ні з чым! Набліжаюцца казачныя навагоднія святы, і бачна, з якім стараннем нашыя пакупнікі выбіраюць каляровыя віншаванні менавіта на паперы. Пашлюць іх, безумоўна, не «каб адчапіцца», а ад усяго сэрца. Моладзь, напрыклад, палюбіла посткросінг. Паштоўкі з выявамі беларускай прыроды, нацыянальных строяў, страў аблятаюць увесь свет, а мы з задавальненнем іх перасылаем і апрацоўваем.

**— Калі падсумаваць сыходзячы год, чаго дасягнула «Белпошта»? Якія праекты збіраецеся ажыццявіць у будучыні?**

— Калектыў РУП «Белпошта» не маленькі: дваццаць шэсць тысяч супрацоўнікаў. За гэты год мы зрабілі шмат. Працавалі над новымі тэхналогіямі: пенсіянеры зараз могуць атрымліваць пенсію ў любым аддзяленні паштовай сувязі, а не толькі па месцы жыхарства. Змянілі сістэму лагістыкі — палепшылі якасць і тэрміны дастаўкі пошты. Рэалізавалі дадатковыя паслугі. Адкрылі восем аддзяленняў сувязі, чатыры бізнес-пошты, сем пунктаў выдачы паштовых адпраўленняў, а таксама «круглую» залу Паштамта, дзе пасля рамонту дзейнічае кірмаш паштовак, марак і сувеніраў. У гэтым годзе прадпрыемства атрымала шэраг узнагарод, у тым ліку і міжнародных.

**— Што дазваляе вашай арганізацыі, найстарэйшай у Беларусі, заставацца канкурэнтаздольнай у сучасную эру высокіх і хуткасных тэхналогій?**

— Пастаянны рух наперад. Нельга адставаць ад часу, ад змен у свеце і патрабаванняў кліентаў. Свае паслугі мы інтэгруем з ІТ-тэхналогіямі, надаём ім новыя якасці. Напрыклад, ужо з'явілася электронная марка, электронныя грашовыя пераводы і плацяжы, гібрыдная пошта і г. д.

**— Год гасціннасці падыходзіць да завяршэння. Наступны будзе прысвечаны моладзі. Што плануеце ў гэтай сувязі?**

— У «Белпошту» кожны год працаўладкоўваецца больш за сотню маладых спецыялістаў. Для іх мы стварылі сістэму прафесійнай адаптацыі, якая дазваляе найлепшым чынам уліцца ў калектыў, выкарыстаць здольнасці і атрыманыя веды. Дапамогу ў гэтым аказваюць прафсаюзная арганізацыя прадпрыемства, Савет моладзі, БРСМ. Для маладых людзей праводзіцца шмат мерапрыемстваў. Калі ж гаварыць пра год моладзі ў цэлым па краіне, то яму будзе прысвечаны конкурс прафесійнага майстэрства сярод паштальёнаў і аператараў, а таксама шмат іншых акцый, пра якія можна больш даведацца на нашым сайце.

**— «Белпошта» прадстаўляе свае паслугі і на кніжным рынку?**

— Мы працуем з нашымі партнёрамі па перасылцы кніг, якія можна замовіць па каталогу. Хацелася б, каб паслуга развівалася яшчэ хутчэй, але над гэтым пытаннем трэба працаваць сумесна.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Аблічча*

# Патаемы крывіцкіх рунаў

**У прадмове да ўкладзенай мною кнігі «Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі» (2003) я пісаў: «Паспрабую адкрыць полаг вякоў, каб зарунела крывіцкімі рунамі мінуласці ўзрунелая рань XXI стагоддзя…». Кнігу склалі рунічныя сведчанні творцаў пра латышска-беларускае літаратурнае спадарненне, сваяцтва, сумоўнасць. Руна — гаворка, маўленне латыша. Рунас — яго песня. Руна — старажытная таямніца слоўнікавага запасу продкаў. Рунічныя надпісы знаходзілі ў Ноўгарадзе, Полацку, на Браслаўшчыне. Адкуль жа з'явіліся ў мяне руны крывіцкія?**



Фота Сяргея Панізніка

*Пятро Масальскі з мастаком Вячкам Целешам. Рыга, 7.09.1978 г.*



*Вясельныя Вольга і Сяргей Сахаравы. Юр'еў, 1905 г.*

Балткрэвам называюць латышы мяне (baltkrievs — беларус). Продкі мае, крывічы, здаўна пасябравалі з суседзямі на Дзвіне-Даўгаве. Дзед латышскага пісьменніка Андрэя Упіта — наш плытагон Грышка. Дзед яшчэ аднаго Грышкі — Рыгора Барадуліна — майстар па млынах Андрэй Галвіньш. Продак драматурга Анатоля Дзялендзіка — Яніс Простакс… Калі хапіла на салідную кнігу тэкстаў беларускіх пісьменнікаў Латвіі, то можна выдаць і кнігу твораў латышскіх пісьменнікаў Беларусі, якія нарадзіліся і жылі ў свой час на Віцебшчыне, Магілёўшчыне…

Калісьці руны высякаліся на камені, метале, косці, дрэве, захаваліся і рукапісныя руны на пергаменце. Скарэжанай рунай выглядалі муры Люцынскага замка (Люцын — г. Лудзэ ў Латвіі). Уважліва «ўчытваўся» ў старадаўнія выявы былой Віцебскай губерні Пятрок Масальскі, які нарадзіўся 1 (14) ліпеня 1905 года ў мястэчку Пасінь Люцынскага павета. Вучыўся ў Себежы (ведаў на памяць паэму «Тарас на Парнасе»). Зацікаўленасць фальклорам узнікла падчас вучобы ў Люцынскай беларускай гімназіі, дзе ён выдаў 9 нумароў «Ластаўкі» — штомесячніка вучнёўскай творчасці і фальклорных запісаў.

З 1923 г. пачаў друкаваць свае вершы пад псеўданімам Пятро Сакол, у 1929 г. у «вольнага сына неба» выйшаў зборнік вершаў «На світанні».

Вялікая падзяка нястомнаму вучонаму Арсеню Лісу, які адкрыў нам не толькі беларускага творцу з латгальскімі каранямі, але і цікавага перакладчыка дайнаў — латышскіх народных песень. У 1935 г. Пётр Масальскі паспрабаваў перакладаць дайны з выкарыстаннем рыфмы. Тэкстамі заахвоціўся А. Ліс і надрукаваў падборку такіх дайнаў у штогодніку «Даляглады» (1979). Былі выказаныя заўвагі і парады для перастварэння дайнаў без агледзінаў на беларускі рыфмаваны фальклор. У 1987 г. зборнік «Дайны» выйшаў у Мінску з тэкстамі песень, поўнасцю адпаведнымі арыгіналу.

Ашчадна паставіўся П. Масальскі і да перакладу латышскіх народных казак. На вялікі жаль, не пабачыў ён «Дайнаў», і ніводная з перакладзеных ім казак не была апублікаваная ў Мінску пры жыцці творцы. Але я збярог частку архіва рыжаніна, тут дапамог і Адам Мальдзіс, і ў 2013 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Казачны свет» выйшла ўкладзеная мною кніга «Добрыя лекі» (рэдактар Алена Масла, мастак Марыя Каратаева).

Беларусы — трэцяя па велічыні дыяспара ў Латвіі. Планамі іх культурнай дзейнасці цікавяцца не толькі ў Рызе. Вячка Целеш, да прыкладу, праводзіць мастацкія выстаўкі па ўсёй Латвіі. І душа Пятра Масальскага павінна радавацца, бо паводле «Добрых лекаў» распрацоўваецца культурніцкі праект «Народная казка — захавальніца кода чалавечнасці».

Мінула 60 гадоў, як не стала Сяргея Сахарава — былога кіраўніка Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі, педагога, фалькларыста, этнографа, царкоўнага гісторыка, публіцыста і выдаўца. Але самае галоўнае — ён усё жыццё збіраў фальклорныя творы, якія перанёс у асноўную сваю кнігу — зборнік «Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў» (1940 г., вып. 1). А годам раней у Вільні выйшла яго кніга «Князь Усяслаў — нацыянальны беларускі асілак».

«Вяслуй, плывец, будзь супакоен: Убачыш родны бераг свой!» — такія паэтычныя пажаданні выказала Вольга Фёдараўна свайму мужу Сяргею Пятровічу ў цяжкі для іх 1942 год. Народжаная пад Чашнікамі, яна сустрэла мужа-палачаніна ў Юр'еве (Тарту), дзе і ажаніліся ў 1905 г. Пазней жылі ў Віцебску, Пінску, Магілёве, зноў у Люцыне, у Дзвінску. У 1928 г. выдала п'есу «На Полацкім замчышчы», а ў 1932 г. — п'есу «Птушка на волі». Напісаныя і пастаўленыя іншыя яе п'есы, была і надзея выдаць зборнік вершаў «Водгукі сэрца»… Сёлета мы адзначаем 130-годдзе з дня нараджэння паэтэсы, драматурга, фалькларыста, вернага сябра і паплечніцы Сяргея Сахарава. Артыкулы пра Сяргея і Вольгу Сахаравых можна знайсці ва ўжо згаданай кнізе «Крывіцкія руны».

Дзясяткі кадраў пра культурна-асветніцкае жыццё беларусаў у Латвіі былі перазняты ў архівах, бібліятэках, спецфондах Рыгі. А самыя цёплыя абліччы дружнай сямейкі Сахаравых я ўбачыў на здымках, падораных мне незабыўнай Ірынай Сяргееўнай, дачкою рыжскіх беларусаў.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Пра мужнага Ялмужну

**Імя маладога пісьменніка Антона Францішка Брыля ўжо добра вядомае аматару беларускай літаратуры. Тры гады таму ён выдаў кнігу паэзіі «Не ўпаў жолуд», летась прадставіў выдатны пераклад эпасу «Бэўвульф» са стараанглійскай мовы, а сёлета дэбютаваў у якасці празаіка. Так, у выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет гістарычная казка Антона Францішка Брыля «Ян Ялмужна». Падчас нядаўняй прэзентацыі аўтар распавёў пра ўзроўні тэксту, гістарычных асоб, што сталі літаратурнымі героямі, акцэнтаваў сувязь «Яна Ялмужны» з гатычным раманам «Замак Отранта» Хораса Уолпала, а таксама патлумачыў, чаму ў казкі не будзе працягу.**

## ГІСТОРЫЯ ЦІ ЛІТАРАТУРА?

— Твор «Ян Ялмужна» мае два ўзроўні. На першым — проста невялікая літаратурная казка, але з іншага боку — перад намі пэўнага кшталту разгорнуты жарт адносна некаторых гістарычных пытанняў пра падзеі пачатку XVI ст., — распавёў Антон Францішак Брыль. — Гэтага можна не заўважаць і чытаць кнігу проста як казку. Калі пытаюцца, каго трэба ведаць у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку XVI ст., то першымі я назаву князёў Аляксандра Ягелончыка і яго брата Жыгімонта Старога, трэці — Ольбрахт Гаштаўт. Ён і стаў адным з герояў маёй казкі. У канцы кар'еры гэта Вялікі канцлер, ваявода віленскі, найбагацейшы чалавек краю, які паводле вопісу войска 1528 года ставіў больш як 400 коней (у залежнасці ад маёмасці кожны пан мусіў паставіць пэўную колькасць коней). Ён пабудаваў замак у «мураваных» Геранёнах, які стаў першай мураванай замкавай рэзідэнцыяй, што не належала Вялікаму Князю (да яго толькі князі дазвалялі сабе мець такія замкі). Ён адзін з істотных аўтараў Першага статута ВКЛ і найбольш верагодны спонсар стварэння другой рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў. Гэта чалавек, уплыў якога адчувальны ва ўсіх сферах жыцця ВКЛ. Да прыкладу, калі Скарына нешта не так зрабіў у Кёнігсбергу і збег адтуль, то Прускі герцаг напісаў на яго скаргу менавіта Ольбрахту Гаштаўту.

Такім чынам, адна з задумак казкі — вярнуць у больш вядомую, папулярную версію беларускай гісторыі і культуры імя Ольбрахта Гаштаўта, дадаць яго да галерэі твараў, якія пазнаюцца чалавекам, адмыслова не зацікаўленым мінуўшчынай. Бо ў акадэмічнай гісторыі Беларусі ён займае проста агромністае месца. Яшчэ адна мэта аўтара — пазнаёміць чытачоў з так званай «Палемонаўскай легендай». Паводле гэтага ананімнага старажытнага тэксту, літоўская шляхта паходзіць ад выгнанцаў з Рыма. Прадстаўнікоў знаных родаў калісьці выратаваў ад улады Нерона Палямон, яго родзіч, і прывёў у Літву. Гаштаўт у казцы Антоня Францішка Брыля — шчыры прыхільнік гэтай гісторыі. Ён ахвотна распавядае сваім гасцям пра ўцёкі шляхты з Рыма і нават аздабляе тэматычнымі фрэскамі асобны пакой у Геранёнскім замку.



## ПРАЎДА ЦІ ВЫДУМКА?

Пагадзіцеся, рабіць гістарычную асобу героем казкі, ды яшчэ і «прыпісваць» яму захапленне пэўнымі поглядамі — смелы крок. Таму, каб адрасаваць пытанні спецыялісту, аўтар абачліва запрасіў на прэзентацыю кнігі вядомага гісторыка, кандыдата гістарычных навук Аляксея Шаланду.

— Мы маем цікавы прыклад пэўнага працягу традыцыі напісання казак на гістарычную тэматыку, — патлумачыў Аляксей Івашевіч. — Пісалі казкі і раней. Адной з іх можна назваць славутую легенду пра Палямона, якога ведаюць яшчэ меней, чым асобу Гаштаўта. Легенда пра Палямона ў летапісах вельмі нагадвае казку, бо ўсе законы жанру там выконваюцца і яна мае хутчэй ідэалагічны, чым навуковы падтэкст. Легенда адказвала як мінімум на тры важныя пытанні: адкуль пайшла назва дзяржавы? дзе карані шляхты ВКЛ, у тым ліку славутых родаў, што згадваюцца на старонках летапісаў? адкуль паходзіць дынастыя Гедымінавічаў, якія кіравалі Вялікім Княствам? Зразумела, што адказы на іх — у сівой старажытнасці, у часах Антычнасці. Гэта вельмі цікавая казка. А калі казаць пра асобу Гаштаўта, то ў Літве ён больш папулярны, чым у Беларусі, бо паводле паходжання Ольбрахт быў літоўцам. Нашы суседзі нават выдалі адмысловую манаграфію з падрабязным даследаваннем гісторыі роду, лёсу гэтай асобы. Магчыма, працу варта было б перакласці на беларускую мову і прапагандаваць у нашых навуковых колах. Гаштаўт — вельмі супярэчлівая асоба і ў культурным, і ў палітычным аспектах. Сказаць дакладна, што ён быў прыхільнікам толькі літоўскага пачатку ў ВКЛ, мы не можам. Ольбрахт выдатна валодаў старабеларускай мовай і нават пісаў на ёй літаратурныя творы. Ёсць версіі, што менавіта ён — аўтар «Пахвалы Жыгімонту». Гэты тэкст быў надрукаваны толькі ў XIX стагоддзі беларускай лацінкай і пасля не перавыдаваўся.

— Кажучы пра Гаштаўта як пра пісьменніка, можна ўзгадаць яшчэ ліст да Боны Сфорцы, так званы «Мемарыял Гаштаўта», — дадае Антон Францішак Брыль. — На гэты тэкст часта спасылаюцца, калі распавядаюць пра погляды Гаштаўта, і я ўвесь час спрабую пераканаць гісторыкаў яго перакласці. Справа ў тым, што пры перакaзе абсалютна губляецца тое, у якім кантэксце выказваюцца думкі. Гаштаўт — вельмі імпульсіўны, крыўдлівы чалавек, на час напісання мемарыялу якраз страшна пасварыўся са сваім сябрам Канстанцінам Астрожскім, таму піша пра яго шалёную колькасць непрыемных рэчаў. Гэты тэкст дае магчымасць адчуць жывога чалавека ў гістарычным працэсе, узгадаць, што гэта не застылы згустак поглядаў і палітычных прыхільнасцей, а эмацыянальны чалавек.

## ОТРАНТА ЦІ ГЕРАНЁНЫ?

Сувязь казкі «Ян Ялмужна» са знакамітым раманам Гораса Уолпала «Замак Отранта» можна патлумачыць на некалькіх узроўнях. Самы просты і відавочны ў тым, што ў якасці рэдактара «Ялмужны» выступіла перакладчыца Уолпала на беларускую мову Ганна Янкута. Антон Францішак жа ў сваю чаргу стане рэдактарам перакладу «Замка Отранта». Але ёсць і яшчэ больш глыбокая сувязь паміж творамі. Справа ў абыходжанні з рэальнасцю і фантастычным у літаратурным тэксце.

— «Замак Отранта» Хораса Уолпала, які выйшаў напрыканцы 1764 года, лічаць пачаткам і фундаментам жанру фэнтэзі і жанру сучаснай мастацкай казкі, — патлумачыў Антон Францішак. — Да панавання класіцызму элемент фантастычнага ў літаратуры быў больш магчымы, чым элемент рэалізму. Гісторыю можна было распавесці, кіруючыся адно вядомымі фактамі або дадаючы да аповеду невядомыя і фантастычныя элементы. Так і ў легендзе пра Палямона невядомы летапісец не вагаючыся дапісаў агромністы пачатак гісторыі пра тое, як продкі літоўцаў у часы Нерона прыплылі з Рыма. Але класіцызм сцвердзіў іншы пастулат: пісаць пра рэчы, якіх не бывае, — поўнае глупства. Наступае проста «выпаленае поле» ў фантастычнай літаратуры, бо прыходзіць разуменне таго, што служнасць напісанага ў творы мае вартасць. Але на сцэне з'яўляецца Хорас Уолпал, які піша шалёна фантастычную кнігу. Спачатку «Замак Отранта» пазіцыянуецца як пераклад старой кнігі, а пасля незвычайнага поспеху, ужо ў прадмове да другога выдання, Уолпал заявіў сваё аўтарства і сцвердзіў правы фантастычнага на месца ў літаратурных творах. За Уолпалам пачынаецца традыцыя, вельмі доўга слабейшая за яго ў смеласці абыходжання з выдумкай. Да прыкладу, не так даўно ў англамоўным свеце прайшла хваля пераробкаў класічных кніг, кшталту «Пыха, перадузятасць і зомбі», дык вось «Замак Отранта» можна перадрукаваць з назвай «Замак Отранта і жывыя шкілеты», прадаваць як сучасны панк-трэш, і ніхто не заўважыць, што нешта не так. Аўтар дазваляе сабе ўсё, што прыходзіць у галаву.

## КАЗКА ЦІ ПАДАННЕ?

Нягледзячы на тое, што аўтар падкрэслівае сваю любоў да казачнага і выдумкі ў літаратуры, пераважная большасць герояў у кнізе — гістарычныя асобы, і нават імёны дробных персанажаў — з сапраўдных дакументаў. Дзеля эксперымента Антон Францішак прапанаваў чытачам пашукаць інвентар маёнтка Трабы за XVI стагоддзе, і ў пераліку людзей, прыпісаных да яго, уважлівы шукальнік заўважыць імя Яна Ялмужны і апісанне яго стану на той момант. Падкрэслівае аўтар і значнасць успрымання легенды пра Палямона менавіта як літаратурнага твора:

— Легендарная частка хронік была недаацэненая. Паколькі яе ўпісалі ў пачатак летапісу, то яна ўспрымаецца ў першую чаргу як хроніка, вельмі недакладная, таму ў ёй няма ніякай карысці. Тут можна правесці паралель з тым, як успрымаўся «Бэўвульф» сярод часткі германістаў канца XIX ст., да таго як у справу ўмяшаўся Толкін. Гэты эпас лічыўся тэкстам, у якім ёсць крышачку пра гістарычных конунгаў, але расповед перамяжаецца з «нейкай лухтой пра цмокаў». Пасля ў нейкі момант даследчыкі заўважылі, што «Бэўвульф» — добрая паэма і сталі разглядаць яе як літаратурны твор. Пры ўсёй папулярнасці, якую ў нас маюць «Трышчан», «Бава», «Александрыя» — перакладныя аповесці часоў Рэнесансу, па-за ўвагай шырокага чытача цалкам праходзіць буйны арыгінальны мастацкі твор таго ж перыяду на лакальным матэрыяле. Варта памятаць, што легенду пра Палямона трэба «адразаць» пад лінію смерці Гедыміна, бо ў гэтым месцы яна пераходзіць у нармальную гістарычную хроніку. Пачатак летапісу, напісаны невядомым аўтарам, — абсалютна самакаштоўны арыгінальны мастацкі тэкст. І калі мы перастанем зважаць на тое, што летапісец нахабна спрабаваў выдаць яго за праўду, то заўважым, што гэта ў прынцыпе добрая літаратура.

Але варта вярнуцца да асобы Яна Ялмужны. Герою, які стаіць у цэнтры казкі, мы зусім не надалі ў гэтым тэксце ўвагі. Але ці патрэбна пра яго распавядаць, так бы мовіць, псаваць уражанне ад чытання? Бо калі гістарычны пласт тэксту можна патлумачыць без шкоды чытанню і такім чынам зрабіць яго ўспрыманне больш поўным, то разгляд казачнага, чыста літаратурнага аспекту можа значна папсаваць першае ўражанне. Заначу адно: Ялмужна будзе вам больш сімпатычны, чым уладны Ольбрахт, вас скорыць яго розум, досціп, талент, прыгажосць, вынаходлівасць і спрыт. А гісторыя сёмага сына млынара, які воляй выпадку стаў кухмістрам пана, захопіць не менш расповедаў Гаштаўта пра ўцёкі Палямона з Рыма. Натуральна, у справе дасягнення мэт Яна не абыдзецца без дапамогі чароўных сіл.

Антон Францішак прызнаецца, што, магчыма, нас чакаюць новыя казкі ў падобным стылі:

— Я проста люблю казкі больш, чым усе астатнія жанры літаратуры. Таму, калі ўзнікла задумка распавесці гісторыю, пачаў складвацца сюжэт, то я зразумеў, што гэта павінна быць казка. Думаю, напішу нешта фантастычнае на сапраўднай гістарычнай базе. Але мне падаецца, што гісторыю Яна Ялмужны я расказаў цалкам.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

## Гістарыёграф



**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Былі ў Полацку злачынцы?

Полацк — першы беларускі горад, згаданы ў старажытных летапісах, першая беларуская сталіца, горад Рагвалода, Усяслава Чарадзея, Еўфрасінні, Францыска Скарыны і многіх іншых знакавых асоб айчыннай гісторыі. Таму новая праца па гісторыі Полацка не можа не выклікаць цікавасці. А калі даследаванне напісана вядомым спецыялістам, жывой мовай, на падставе шматлікіх вядомых і выкарыстаных упершыню крыніц, яно, відавочна, вартае пільнай увагі. Усё сказанае ў поўнай меры тычыцца новай манаграфіі беларускага гісторыка Віталя Галубовіча «Miscellanea Historica Polocensia=Даследаванні па гісторыі Полаччыны XII—XVII стст.» (Гродна: ГДАУ, 2014, 224 с.).

Кніга складаецца з асобных нарысаў, прысвечаных розным аспектам гісторыі горада і яго наваколля: ад пытанняў генеалогіі полацкіх князёў і асноўных шляхецкіх родаў Полаччыны, праблем шляхецкай геральдыкі, да разгляду міжканфесійных і міжэтнічных стасункаў жыхароў горада.

Асобны нарыс распавядае пра злачынствы ў Полацку ў першай палове XVII стагоддзя. Ён уяўляе, напэўна, найбольшую цікавасць, бо адлюстроўвае малавядомыя бакі жыцця мяшчан у эпоху Новага часу. Тут падрабязна апісаны розныя віды супрацьзаконных дзеянняў, што мелі месца ў Полацку. Аўтар пералічвае катэгорыі насельніцтва, якія маглі здзяйсняць злачынствы. Як высвятляецца, крымінальныя ўчынкі былі ўласцівыя практычна любым прадстаўнікам сацыяльных слаёў і этнічных груп насельніцтва горада, бо сярод злачынцаў згадваюцца мяшчане, шляхціцы, жаўнеры, святары, вучні, і нават — жанчыны. Вельмі рознымі былі і самі праваparушэнні: ад, на жаль, нярэдкіх і ў наш час разбою, рабунку, збіцця, згвалтавання, двяжэнства, забойства, выкрадання людзей, прыўлашчвання маёмасці і ашуканства да такога «чыста сярэднявечнага» віду злачынства, як чарадзейства.

Не меншую цікавасць уяўляюць і іншыя нарысы з «Даследаванняў па гісторыі Полаччыны», аднак фармат нашага агляду не дазваляе дэталёва разгледзець іх усе. Ды, зрэшты, у гэтым, напэўна, і няма патрэбы, бо зацікаўлены чытач сам пазнаёміцца з кнігай. Ёсць тут, што праўда, адна праблема. Манаграфія пабачыла свет у выдавецтве Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта накладам усяго... сто асобнікаў! Гэта, на жаль, — характэрная з'ява сучаснай беларускай навуковай літаратуры. У выніку ўсе нешматлікія кнігі хутка разыходзяцца сярод вузкага кола адмыслоўцаў і рэдка трапляюць да звычайных аматараў гісторыі.

Застаецца спадзявацца, што ў самым хуткім часе «Даследаванні па гісторыі Полаччыны XII—XVII стст.» Віталя Галубовіча будуць перавыдадзеныя вялікім накладам. Хацелася б, каб тэкст суправаджаўся шматлікімі якаснымі ілюстрацыямі, што дазволіла б стварыць у чытачоў поўнае ўяўленне пра жыццё найстаражытнейшага беларускага горада на пачатку Новага часу.

# Калі паэт робіцца воінам

**Вызначальная рыса творчасці Максіма Танка — грамадзянскі пафас, адданасць Беларусі і яе народу. Ужо ў раннім вершы «Ты чуеш брат» (1930) ён выступіў як паэт-змагар, заклікаўшы да аб'яднання беларусаў у адзіны народ. У вершы «Калі няма на свеце маёй мовы» (1931) М. Танк выказаў абурэнне польскай прапагандай, якая не прызнавала беларускай мовы. У вершы «Не забывай» (1934) паэт адстойваў правы беларусаў на волю, свабоднае самавыяўленне ў працы і творчасці, заклікаў мужна «піліць і рваць стальныя путы», не адступаць у барацьбе за справядлівасць і праўду.**

Змест верша «Вільня» (1936) красамоўна сведчыць пра тое, што ідэал М. Танка — лідар паўстання 1863 года Кастусь Каліноўскі. Прыклад мужнасці і няззломнасці, менавіта ён натхняў паэта на барацьбу. У вершы «Не плач» (1936) М. Танк заклікаў патрыётаў з'яднацца і ўпэўнена, з верай у перамогу, змагацца за беларускую справу. Паэт ні кроплі не сумняваўся ў адраджэнні беларускага народа. У праграмным творы «Мы не паміром» (1936) ён з аптымізмам адзначаў, што ў жорсткай барацьбе беларусы здольныя адстаяць сваё права на гістарычную перспектыву: «Народ устане з новай сілай // Непераможны, горды, грозны».

У 1938 г. М. Танк стварыў шэдэўр нацыянальнай літаратуры — драматычная паэму «Кастусь Каліноўскі». Вуснамі галоўнага героя, патрыёта і адданага змагара, паэт выказаў веру ў росквіт роднага краю, годнае і вольнае жыццё беларусаў.

М. Танк вітаў уз'яднанне Беларусі ў 1939 годзе. Здзейснілася даўняя мара паэта. Вершам «Здарова, таварышы» паэт ухваляў перамены, сцвярджаў, што аб'яднаны народ з новымі сіламі разгорне стваральную працу. На яго думку, у аб'яднанай Беларусі мусіў наступіць росквіт нацыянальнай культуры, павінна была пачацца вясна духоўнага жыцця: «Раскутая песня не будзе больш плакаць, // Вясна — на чырвоным куце за сталом».

У гады вайны М. Танк напісаў яркі цыкл героіка-патрыятычных твораў: «Мы вернемся» (1941), «Не шкадуйце, хлопцы, пораху» (1941), «Хто прыйшоў таптаць край вольны» (1941), «Асенняй поўначу» (1941), «Хмары з захаду» (1941), «Маці» (1943), «Партызанская» (1943), «Вастрыце зброю» (1943), «Падымайся, Беларусь» (1943). Паэт ні кроплі не сумняваўся ў перамозе.

Патрыятычны пафас уласцівы многім творам М. Танка. Велічны гімн Беларусі — верш «Ёсць такая зямля»:

*Ёсць такая зямля,*
*дзе крыніцы звіняць,*
*Пераліўчата ззяюць азёры,*
*Дзе стаяць велiканы —*
*капцы-курганы,*
*Векавечным парослыя борам.*

Патрыятызм М. Танка выяўляецца на ўсіх узроўнях яго творчасці. У вершы «Зямля» (1993) паэт мастацкім словам даводзіць, што сапраўдны патрыёт ніколі не здрадзіць радзіме і нават просіць каханую не раўнаваць яго да роднай зямлі («Ты не раўнуй», 1986).

М. Танк выдатна ўсведамляў неацэнную каштоўнасць беларускай мовы для захавання беларусаў як нацыі. У гімнічным вершы «Родная мова» паэт падкрэслівае невычэрпныя магчымасці беларускага слова, выказвае надзею, што мова нарэшце «зазвініць у кожнай хаце» і будзе пачутая ва ўсім свеце.

М. Танк — паэт-жыццялюб, аптыміст, які ўмеў бачыць хараство жыцця. Уражаннямі ад наведвання іншых краін паэт шчодра дзяліўся з чытачамі ў творах з красамоўнымі назвамі: «Украіне» (1946), «Грэцыя, Грэцыя!» (1948), «Пражскі дзённік» (1949), «Карэі» (1950), «Будапешт ноччу» (1951), «Балатон» (1952), «На Гіндукушы» 1952). Узнёсла пісаў М. Танк пра культуру і звычаі народаў свету, нязменна падтрымліваў іх імкненне да свабоды.

**Вячаслаў РАГОЙША**

## Максіму Танку

У дзень адкрыцця помніка паэту ў Мядзеле

*Яго*
*прыніжалі,*
*зняважалі,*
*знішчалі*
*мовамі,*
*верамі,*
*турмамі.*

*Яго*
*прыручалі,*
*аблашчвалі,*
*прыўлашчвалі*
*званнямі,*
*пасадамі,*
*узнагародамі.*

*Не атрымалася!*

*Горды,*
*непакорны,*
*непадкупны,*
*абтросшыся*
*ад званняў,*
*пасад,*
*узнагарод,*
*Ён*
*бронзай узнёсся*
*над тымі мовамі,*
*над тымі верамі,*
*над тымі турмамі,*
*над самім часам —*
*з адною нягаснучай верай*
*у Народ, Беларускі Народ,*
*у Родную Мову, якая*
*«усімі вясёлкамі ззяе»,*
*у Беларусь.*

5.12.2014 г.

Святлом і душэўнай чысцінёй напоўнена інтымная лірыка М. Танка, сабраная ў зборніку «Ave Maria» (1980). Паэт перадае тонкія нюансы адносін закаханых, радасць сустрэч і сум расстанняў.

У вершах М. Танка шмат жартаў, усмешак і мяккага гумару. У паэме «Без Тараса на Парнасе» (1946) паэт у жартаўлівай форме паказаў канкурэнцыю сярод беларускіх пісьменнікаў, іх змаганне за лаўравыя вянкі. Майстар слова ўмеў пажартаваць і з сябе, пра што сведчаць радкі верша «Роздум» (1959).

Іскрыстасцю, цеплынёй і лагодаю напоўнены творы М. Танка для дзяцей — «Светлячок», «Мухамор», «Заечы дом», «Жук і слімак», «Дзед і шчупак», «Казка пра мядзведзя», «Дуб», «Галінка і верабей». Яны вучаць спагадлівасці, шчырасці, любові да прыроды.

Галоўная рыса сталага перыяду творчасці — філасафічнасць і інтэлектуальнасць. Паэт шмат разважае пра сутнасць жыцця і таямніцу смерці, пра шчасце і вечныя каштоўнасці. У філасофскім вершы «Дрэвы паміраюць» робіць важную выснову: чалавек толькі тады жыве па-сапраўднаму, калі захапляецца жыццём, бачыць яго непаўторную прыгажосць, цэніць кожнае імгненне быцця. Неразгаданая таямніца, непаўторны феномен для паэта, — родная Беларусь, з яе таленавітымі людзьмі, дзівоснымі рэкамі і азёрамі, рэліктавымі курганамі і векавымі пушчамі.

У паэтычным шэдэўры «Люцыян Таполя» М. Танк разважае пра веліч мастацтва і яго магічнае ўздзеянне на людзей. Майстар слова ўпэўнены, што чорныя сілы пекла ніколі не спыняць «палёту душы» і стваральных памкненняў розуму. Верш «Паэзія» (1955) — сцвярджэнне асаблівай місіі вершаванага слова, яго таямнічага і неразгаданага сумоўя з душой чалавека.

У вершы «Я хацеў бы» (1952) паэт прызнаецца, што марыць застацца ў сэрцах людзей не бязгрэшным анёлам, а як змагар за праўду і надзейны таварыш, які заўсёды «шчырым сэрцам радзіму любіў».

Як паэт-інтэлектуал М. Танк выяўляў цікавасць да культурнай спадчыны беларускага народа. У вершы «Гравюры Скарыны» (1987) ён высока ацэньваў выданне «Бібліі» з выдатнымі прадмовамі і гравюрамі на старой беларускай мове.

Час перабудовы і галоснасці творца сустрэў з энтузіязмам. Адкрытасць грамадства і вяртанне да праўды цешылі паэта, і веру ў перамены да лепшага ён выказаў у вершы «Час» (1989).

Не мог прамінуць і тэму Чарнобыля. У вершы «Просьба аб дараванні» (1989) ён пранікнёна напісаў пра жахлівыя вынікі аварыі. Паэт заклікаў да клопату пра экасістэму, пратэставаў супраць знішчэння раслін, калоній птушак і звяроў.

Неверагодна трывожыла М. Танка бязладдзе пасля распаду СССР, заняпад гаспадаркі і асабліва раскол грамадства. У вершы «Трэн пакутны» (1992) паэт нагадваў, што шлях да росквіту краіны — у сумленнай працы.

Непакоіла паэта і штучнае заніжэнне аўтарытэту інтэлектуалаў і майстроў слова ў грамадстве. Трывога пра незайздросны лёс многіх творцаў — у вершы «Даведнік» (1994).

Пяру М. Танка належаць некалькі апавяданняў і цыкл яркіх нарысаў — «Там, дзе азёры», «Дыскусія над праграмай беларускіх нацдэмаў», «Панскія выбары», «Светлая дата», у якіх пераважна асвятляюцца падзеі жыцця ў Заходняй Беларусі. Празаічныя творы М. Танка і дзённікі «Лісткі календара» выдатна перадаюць сталенне пісьменніка як асобы, напружаныя рытм працы і няспынныя творчыя пошукі. На старонках мемуараў М. Танк здолеў раскрыць атмасферу эпохі. Тут ён выказвае стаўленне да значных грамадскіх і палітычных падзей, адзначае важныя з'явы нацыянальнай літаратуры і культуры.

Літаратурная спадчына М. Танка надзвычай багатая і каштоўная. Творы майстра адрозніваюцца выключнай адшліфаванасцю, яркай вобразнасцю, мастацкай дасканаласцю, што робіць іх надзвычай прывабнымі эстэтычна.

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

# Рейды в белых халатах




Тяжёлая авария обернулась чудом: человек, казавшийся безнадёжным, выжил. Спас его не волшебник, а хирург обычной городской больницы, «играющий в шах и мат» с сударыней Смертью каждый день. Любите ли вы правду, острую, как скальпель, и чистую, как стерильный бинт? Если да, то книга «Хирург возвращается», вышедшая в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест», раскроет глаза на медицину в самом её «кровоточащем» месте.

Это не интригующий детектив, а реалистичный, будничный, слегка циничный, но правдивый дневник врача — о том, что происходит «в чертогах» хирургического отделения — места, куда все так бояться попасть. Автор — опытный питерский хирург Дмитрий Правдин, самоуверенный профессионал, борец за справедливость и обладатель потрясающего чувства юмора.

В поисках нового опыта, да и просто оттого, что хочется сменить обстановку, доктор время от времени ездит работать в отдалённые уголки России, маленькие районные клиники, страдающие от катастрофической нехватки врачей. Дмитрий Правдин так отчаянно хочет «поднять сельское здравоохранение», что даже отпуск готов принести в жертву.

«Хирург возвращается» повествует о поездке автора в Карелию, к Белому морю. Он устраивается на месяц в хирургическое отделение, которым «правит» пожилая заведующая с фиолетовыми волосами, вечным «цунами» в кабинете и повадками Кутузова. Дмитрию Правдину приходится, кроме всего прочего, спать в отвратительной палате «люкс» с разломанной мебелью, холодной водой и волнами за окном. Но хирург иронично отмечает, что раз кормят в «районке» парными куриными котлетами и картофельным пюре на молоке, то вполне можно пережить любые невзгоды — в виде тараканов или сумасшедшей начальницы.

Аппендициты, опухоли, воспаления, внутренние кровотечения, ранения, переломы… Не ищите в прозе Дмитрия Правдина художественных изысков и волнующих сюжетных линий. Медицинская повесть скорее документальная, чем развлекательная, а юмор — всего лишь часть окружающей действительности.

«Пропитанная кровью футболка плохо прикрывает зияющую рану в левом подреберье. Без сомнения, проникающее колото-резаное ранение брюшной полости с внутренним кровотечением. Надо срочно оперировать», — констатирует хирург. Наблюдения в книге будут весьма полезны начинающим медикам. Хотя обычным, далёким от врачебной профессии, но любопытным и неравнодушным людям, тоже покажутся интересными.

«Хирург обязан прийти на работу вовремя, а уйти — как получится», — уверяет Дмитрий Правдин, описывая трудовые врачебные будни без приукрашиваний. Вот на страницах — томящиеся в коридоре пациенты, многие из которых, между прочим, оказываются довольно тяжёлыми экземплярами: пьяницы, скандальные старушки, бывшие зэки, истекающие кровью от очередной разборки «братвы», распутные девицы, заглушающие беременность портвейном…

Проза Дмитрия Правдина живописно раскрывает и характер самого врача. Становится ясно, каким должен быть идеальный хирург и насколько тяжела эта профессия. Постоянное напряжение, многочасовые операции, физические нагрузки, ночи без сна, необходимость всегда быть собранным.

Работа людей в белых халатах раскрывается в книге до мельчайших подробностей. Многие обвиняют автора в подмечании плохого: халатность медперсонала, грязь в больничных коридорах, дефицит оборудования, откровенные пустоты в штатном расписании. Но ведь если не обращать внимания на проблемы, то как они будут решаться?

«В тысячекоечной больнице, оказывающей экстренную помощь второму по численности населения мегаполису страны, — огромные проблемы с младшим медицинским персоналом. Никто не хочет идти драить по ночам полы за сущие копейки», — жалуется Дмитрий Правдин. А потом размышляет о том, что «в Питере устроится в хирургический стационар исключительно из-за своих феноменальных способностей и трудолюбия — миф», потому что нужна протекция. Об этом обычно говорят разве что за чашечкой чая во время домашнего ужина…

«Хирург возвращается» — не только увлекательное, эмоциональное, не «приправленное» вымыслом чтение, это призыв к честности с самими собой и окружающими. А ещё — неплохая мотивация быть более внимательным к «сигналам» своего организма, не запуская недуги до состояния «скорой помощи».

**Мария ВОЙТИК**



# Кислая соль забвения

Люди, похожие на мрачных марионеток в серых, рваных платьях, пропахших дымом, или механических существ в заржавевшей оболочке, не способных на чувства, — вот они, герои символиста нового времени Владимира Данихнова в его книге «Колыбельная». Роман, вышедший в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», рекомендуется читать в минуты глубокой меланхолии и презрения к обществу. Желательно — где-нибудь в деревенской глуши, причём в одиночестве.

Проза Владимира Данихнова вызывает те же чувства, что и «Мелкий бес» Фёдора Сологуба. Если писатель прошлого века мастерски показал загнивание буржуазного общества, то современный автор живо отразил уродства, процветающие в нашем времени. Равнодушие, отчуждение, фальш, хамство, безволие и эгоизм — как с этим бороться? Выставлять напоказ! Текст в «Колыбельной» липкий, обволакивающий. Хочется опомнится, отложить книгу в сторону, но она не отпускает, хоть и местами откровенно раздражает — особенно тех, кто привык мыслить позитивно.

Действие «Колыбельной» происходит в безымянном российском городе, по правде говоря, — настоящем болоте, которое населяют довольно мерзкие и безликие существа, достойные всех кругов ада. Но ведь, если верить гениальному Умбэрто Эко, всё уродливое привлекает не меньше, чем прекрасное.

Один из героев, Меньшов (судя по всему чиновник), сидит в кожаном кресле у себя в кабинете, чешет затылок, подписывает бумажки… и постоянно жалуется на скуку. Жениться не хочет — боится утруждать себя хлопотами. Чтобы хоть как-то разбавить беспросветную тоску,




покупает айфон, но не пользуется им, а кладёт на стол — чтобы все видели и завидовали. Знакомая пародия, не правда ли? «Подобие радости Меньшов испытывал в день зарплаты. Ему казалось, что деньги внесут разнообразие в унылое течение его жизни». Но человек не знал, на что потратить своё богатство. Вот ведь, действительно, проблемы!

Другой «обаятельный» персонаж «Колыбельной» — монтажник Чуркин, любитель пива и маститый рассказчик грустных и пресных историй о любимом себе. Даже смерть матери его не меняет. Чуркин приходит на похороны пьяным, лезет целовать к доярке и постоянно кричит о какой-то колбасе… К слову, у Данихнова с чувством юмора всё в порядке, правда, он чёрный и мрачный, но зато заставляет и хорошенько встрепенуться!

В ряду других образов на страницах «Колыбельной» фигурирует также господин Кабанов — едкая карикатура на пьющих отцов и мужей, которые избивают жён и превращают детей из прекрасных маленьких существ в инвалидов. «Он плыл по течению жизни с телевизионным пультом в одной руке и бутылкой пива в другой». Что-то меняется в этом человеке, когда пропадает его дочка. Но уже, к сожалению, поздно…

Желеобразное существование граждан не длится вечно — город потрясает появление жестокого маньяка по кличке Молния, который уродует и убивает детей. Расследованием занимается сыщик, прибывший из Санкт-Петербурга, — некий Гордеев, о котором «говорили шёпотом, а при встрече трепетали». На деле он типичный сноб и эгоист, возомнивший себя Шерлоком Холмсом: носит крохотную чашечку для кофе на длинной серебряной цепочке, пристёгнутой к изнанке пиджака. Зато, надо отдать должное, детектив безотказно чувствует малейшую ложь в собеседниках. За это ему можно многое простить.

Но почему «Колыбельная»? Дело в том, что в судьбе всех героев так или иначе присутствуют сны, вернее, они меняют реальность, пробуждают ранее неведомые чувства и ощущения. Линии судеб, поступков, характеров и мыслей переплетаются в объёмный клубок, грязную и пыльную паутину, которую сможет распутать только терпеливый и смелый читатель.

У Данихнова природа не предвещает ничего хорошего: солнце, изнемогая, ползает по выгоревшему небу; мёртвые голуби валяются рядом с дохлыми кошками; сквозь разбитый асфальт пробивается квелая, больная трава.

Роман зловещий, психоделический. Сначала затянет, как и героев, в рутину, а потом заставит действовать, менять свою жизнь, чтобы не быть похожими на безвольных призраков «Колыбельной».

**Мария ВОЙТИК**

# Держите руки в карманах!

Как проходит Ваш день? В рабочем кабинете, рядом со стопкой бумаг и плиткой шоколада или дома, у бурлящей кастрюли на плите, в вязаных бабушкиных носках? Главный герой книги С. Дж. Брауна «Похититель удачи», вышедшей в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест», не знает, что такое плавно перетекающие друг в друга будни. Его профессия слишком опасна и увлекательна. Ник Мандей — поучер, или человек, ворующий у счастливчиков их фортуну и продающий её за невероятно большие деньги. «Большинство людей не задумываясь пожмёт руку незнакомцу. Раз — и ты лишился своей удачи. И ничего при этом не почувствовал».

Роман, написанный в духе Чака Паланика, наполнен чёрным юмором и хулиганскими оборотами вроде «отрыжки комфорта» или «побочного продукта общественного несварения». Пожалуй, это самое безобидное, что можно ненароком встретить в книге. Но читается она легко и с первых глав становится настоящим приятелем в бумажной обложке, с которым, казалось бы, можно поболтать обо всём на свете.

Но вернёмся к сюжету. Ник Мандей — не циничный пессимист, каким мог запросто стать, и не крутой парень. Воровство он прикрывает работой скромного частного сыщика на задворках Сан-Франциско. Искренне считает, что перестрелки и встречи с загадочными клиентами, а также роковые женщины бывают у детективов только в кино.

Пока однажды случай не «даёт пощёчину» привычному ходу вещей. «Бывают в жизни такие моменты, когда понимаешь: всё, кранты». Сначала в его кабинет врываются агенты главаря китайской мафии, два азиата, похожих на Джеки Чана и мистера Сулу из "Звёздного пути». Едва отдышавшись, Нику Мандею приходится познакомиться ещё и с брюнеткой в стиле «Города Грехов», которая требует разыскать удачу отца, крупного политического чиновника, и её похитителя, предлагая взамен сто тысяч долларов. Но вот что парадоксально: герой и есть вор! Приходится выкручиваться, скрываясь от правительства и головорезов, да и выбора нет — те, кто угрожают, знают, чем зацепить незадачливого похитителя-одиночку… Кстати, удача бывает разная и подаётся в жидком виде: от консистенции, похожей на лимонад, до тёплого парного «молока». Проза С. Дж. Брауна здорово развивает фантазию! Будьте осторожны во время чтения — вдруг бумага тоже обладает непредсказуемыми свойствами?

**Мария ВОЙТИК**

# Жыць і помніць



**Адчуванне, бадай, знаёмае ці не кожнаму. У тлумнай хадзе дзён, заклапочаны звыклымі справамі, раптам успомніш чалавека, якога добра ведаў і якога, на жаль, ужо няма з намі. Успомніш, і цябе ахіне тужлівая і разам з тым радасная хваля. Самотна стане ад усведамлення, што нішто на зямлі не вечнае. Усцешна праз тое, што ёсць што ўспомніць, сказаць добрае пра гэтага чалавека. Так атрымалася надоечы і ў мяне, калі дзеля ўдакладнення нейкіх звестак разгарнуў выданне «Сто асоб беларускай гісторыі». І адклаў кнігу, бо адразу ж прыгадаўся яе аўтар — Анатоль Мяснікоў.**

Не магу сказаць, што мы былі ў сяброўскіх адносінах. Але што ў прыязных, то дакладна. Пазнаёміліся з ім толькі ў 1972 годзе, калі я паспеў папрацаваць па размеркаванні ў драгічынскай раённай газеце «Запаветы Леніна», «адафіцэрыць» ва Улан-Удэ, зноў звязаць свой лёс з друкам — капыльская раёнка «Слава працы», слуцкая аб'яднаная газета «Шлях Ільіча». Нарэшце, быў запрошаны ў «ЛіМ» тагачасным галоўным рэдактарам Хведарам Жычкам. Анатоль Мяснікоў, толькі скончыўшы ўніверсітэт у 1972 годзе, пачаў працаваць у «Чырвонай змене».

Ініцыятарам знаёмства стаў Анатоль, які лёгка сыходзіўся з людзьмі. Не тое, што я. Ды і знаёмствам гэта назваць складана. Падчас аднаго майго дзяжурства «свежым вокам» па нумары — тады яно праходзіла ў Доме друку, дзе знаходзілася і карэктарская «ЛіМа», — да мяне ў калідоры падышоў незнаёмы юнак, паздароўкаўся і запытаўся: «Як справы, Алесь?». Мне трэба шмат разоў пабачыць чалавека, каб запомніць яго ў твар, і як я ні напружваў памяць, так і не мог прыпомніць, хто ж перада мной. Запытацца ж не асмеліўся. Так працягвалася пэўны час. Толькі пазней ад нашых агульных знаёмых я даведаўся, што гэта Анатоль Мяснікоў, з якім да той, першай, нашай сустрэчы я сапраўды не быў знаёмы.

Дзеля чаго я гэта згадваю? Каб падкрэсліць, наколькі Анатоль быў, карыстаючыся модным сёння словам, камунікабельным, а такая якасць для журналіста, несумненна, вельмі важная. І яна яму вельмі спатрэбілася не толькі тады, калі ён працаваў у «Чырвонай змене», аддаўшы ёй шэсць гадоў, а і ў «Звяздзе», куды перайшоў у 1978 годзе і з якой звязаў свой лёс амаль на трыццаць гадоў, адначасова ў 1995 — 1996 гадах працуючы прэс-сакратаром Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У 1996 годзе стаў ён і галоўным рэдактарам «Гуманітарна-эканамічнага весніка». Маючы званне кандыдата гістарычных навук, загадваў кафедрай журналістыкі Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва.

Уменне сыходзіцца з людзьмі вельмі дапамагала Анатолю ў напісанні нарысаў, артыкулаў, а перадусім — знаходзіць людзей, вартых такіх артыкулаў і нарысаў. У А. Мяснікова нямала твораў і пра так званых простых людзей. Творы гэтыя шчырыя, душэўныя, прасякнутыя той унутранай цеплынёй, якая магчыма толькі тады, калі ўсё пішацца не столькі па рэдакцыйным заданні, колькі па ўнутранай патрэбе.

Яму хацелася пісаць не толькі на патрэбу дня і не толькі пра сучаснасць. Яму жадалася зазірнуць і ў мінулае. Асабліва вабілі постаці адраджэнцаў, якія ў пачатку мінулага стагоддзя, дбаючы пра будучую Беларусь, стаялі ля вытокаў нацыянальнага адраджэння, а крыху пазней, у савецкія часы, нямала зрабілі дзеля таго, каб задуманае ажыццявіць. Шкада толькі, што не ўсе іхнія памкненні далі шчодрыя парасткі. Тры такія каларытныя постаці сталі героямі кнігі А. Мяснікова «Нацдэмы». Выдадзеная ў 1993 годзе, яна была ўганаравана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі і прынесла аўтару заслужаную вядомасць.

Пра змест кнігі дастаткова гаворыць падзагаловак: «Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка». Кажучы словамі аўтара прадмовы Барыса Сачанкі, «у кожнага з гэтых герояў […] — свая біяграфія, свой жыццёвы і творчы лёс, урэшце, свая прафесія. Але, разам з тым, ва ўсіх іх было тое, што яднала, — шчырая любоў да свайго народа і Бацькаўшчыны, жаданне зрабіць хоць што дзеля іх росквіту, глыбокая вера ў шчаслівую зорку». Б. Сачанка адзначыў, што ўсё гэта напісана «ўдумлівым, дапытлівым даследчыкам, які ведае факты і ўмее іх аналізаваць, чалавекам нераўнадушным, улюбёным у мінулае і сучаснае свайго краю».

Ацэнка Б. Сачанкі шмат значыла, бо ён сам вельмі шмат зрабіў дзеля таго, каб менела «белых плям» у беларускай гісторыі, горача падтрымліваў памкненні даследчыкаў у гэтым кірунку, шчыра радаваўся поспехам кожнага, каму ўдалося сказаць сваё важкае слова, прыадкрываючы таямніцу часу, прыўзнімаючы заслону невядомасці над лёсамі тых, хто доўгія і доўгія гады быў незаслужана забыты. Дарэчы, калі пра У. Ігнатоўскага і Я. Лёсіка апошнім часам напісана шмат, дык нельга гэтага сказаць пра Ф. Шантыра. Публікацыі пра яго, што з'явіліся пасля кнігі А. Мяснікова, можна пералічыць па пальцах. Ён пражыў усяго трыццаць тры гады, а ў такім узросце ці шмат зробіш… Хоць Ф. Шантыр акурат і зрабіў шмат, пра што можна даведацца з нарыса А. Мяснікова «Змагар за нацыянальнае адраджэнне». Падрабязна расказваецца пра рэвалюцыйную і літаратурную дзейнасць Ф. Шантыра. Маладому чытачу, бадай, цікава будзе даведацца, што Ф. Шантыр быў мужам Зоські Верас. Але ці не самае істотнае ў гэтым нарысе — падрабязны разгляд брашуры Ф. Шантыра «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу», што выйшла ў сярэдзіне 1918 года ў Слуцку ў друкарні З. Барнака. Брашура невялікая: усяго 21 старонка. Затое колькі цікавых думак выказаў у ёй Ф. Шантыр! Безумоўна, не з усімі ягонымі меркаваннямі можна пагадзіцца. Але нельга не захапляцца ягонай улюбёнасцю ва ўсё беларускае. Прынамсі, з вялікай цеплынёй ён выказваўся пра родную мову: «Беларуская мова. Зразумелая, ясная, поўная пекнаты і харства родная мова […] У аснове сваёй наша мова мае столькі чароўнай прастаты і харства, што не пройдзе і колькі дзесяткаў год, як яна не толькі зраўнуецца з другімі цывілізаванымі мовамі…»

Запатрабаванай аказалася і кніга А. Мяснікова «Сто асоб беларускай гісторыі», за якую ён атрымаў Літаратурную прэмію «Залаты Купідон». Аддрукаваны тыраж разышоўся вельмі хутка — для сучаснасці з'ява вельмі рэдкая. Асабліва калі прыняць пад увагу, што кніга беларускамоўная. Давялося рыхтаваць другое выданне.

І высокая ацэнка кнігі, і цікаўнасць да яе — невыпадковыя. Гэта, па сутнасці, энцыклапедычны даведнік, які характарызуецца не толькі дакладнасцю, вывераcасцю фактаў, але і мастацкасцю, месцамі — эмацыянальнасцю. Аб'ём кожнага нарыса вельмі абмежаваны, і такая лаканічнасць па-свойму дысцыплінавала А. Мяснікова і вымагала ашчаднасці ў слове.

Такога ж прынцыпу ён прытрымліваўся ў кнізе «Сто асоб беларускага спорту», якая, калі мець на ўвазе багацце фактычнага матэрыялу, у чымсьці нават выйграе ў параўнанні з папярэдняй. У першую чаргу праз тое, што ў нашай краіне дагэтуль не з'яўлялася выдання, у якім бы так падрабязна расказвалася пра спартсменаў. Дарэчы, спорт вельмі любіў і сам Анатоль. Больш як у дзесяці краінах ён пабываў, асвятляючы важныя спартыўныя спаборніцтвы міжнароднага ўзроўню.

А. Мяснікоў належыць да тых, хто першым пачаў вяртаць з небыцця постаці людзей, якія надзвычай шмат зрабілі для беларусаў. З прыцэлам на будучыню пісаў ён пра Алеся Бурбіса («Адкрыць вочы свайму люду…»), Дзмітрыя Прышчэпу («Камісар землеробства»), Аркадзя Смоліча («Беларус — грамадзянін будучыні…»), Антона Жэбрака («Бессмяротнасць Хлеба і Чалавека»), Міхася Чарота («Паэт-трыбун. Чалавек часу. Ахвяра рэжыму»). Са спадзяваннем, што іншыя, хто звернецца да гэтай тэмы, нешта ўдакладняць, дапоўняць. Прыглядаўся А. Мяснікоў і да вобліку аднаго з найвыдатнейшых дзеячаў савецкага перыяду, жыццё якога пакуль не вывучана да канца, — Аляксандра Чарвякова. Усё гэта постаці з кнігі «Айчыны верныя сыны».

Напісанае ім патрапляе пад вызначэнне «рукапісы не гараць»: гэта, акром названых кніг, «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)», «Дзеля гэтага варта жыць», «Талент быць чалавекам» і іншыя. А. Мяснікоў з'яўляецца суаўтарам 10 калектыўных зборнікаў публіцыстыкі, усяго ж ён апублікаваў звыш 250 навуковых і гістарычна-даследчых прац.

Дарэчы, адна Анатолева кніга засталася пакуль што ў рукапісе. Называецца яна «Ад Рагвалода да нашых дзён», а ў жанравых адносінах пазначаная як летапіс беларускай гісторыі. Калі кніга ўсё ж пабачыць свет, то, думаю, лагічным завяршэннем яе магло б стаць слова і пра яе аўтара, які паўтаруся, сумленна глядзеў праўдзе ў вочы і вучыў праўдзе сваіх чытачоў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## На паліцы




# Чытанне з выхаваннем

Шмат гаворыцца, і апраўдана, што цікавасць да кнігі памяншаецца. Радзей, на жаль, бяруць яе ў рукі і школьнікі. Як становішча выправіць? Задумаўся над гэтым і пісьменнік Міхась Сліва. Да згаданай праблемы падышоў арыгінальна. Узяў ды напісаў казку «Як кнігі дзяўчынку выхавалі».

Таня спачатку «не берагла кнігі. Размалёўвала старонкі, загінала лісты, нават выдзірала іх! Тата і маці вучылі, як трэба беражліва адносіцца да кніг, але дзяўчынка рабіла сваё…» Несумненна, такі лёс чакаў бы і падручнікі, якія Таня прынесла дамоў, калі пайшла ў першы клас. Ды Буквар знайшоў выйсце, як яе перавыхаваць:

«— А зробім вось што. Калі Таня раскрые кніжку, няхай усе літары пачнуць скакаць з месца на месца. Тады яна ніводнага склада не прачытае, ніводнага слова не зможа скласці. І будзем так рабіць, пакуль усе не заўважаць, што Таня не ўмее чытаць».

Сказана — зроблена. А паколькі гэта казка, то ўсё заканчваецца добра. Таня ў рэшце рэшт зразумела, «чаму нельга браць кнігу бруднымі рукамі, чаму не трэба загінаць куточкі, нельга слініць пальцы, калі перагортваеш старонку, нельга чытаць кнігу ў час яды…»

Казка «Як кнігі дзяўчынку выхавалі» дала назву кнізе М. Слівы, што пабачыла свет у выдавецтве «Народная асвета». Іншыя казкі, якія ўвайшлі ў зборнік, таксама па сваім змесце сучасныя, але з павагай да традыцый народнай казкі. Вось так пачынаецца адна з іх — «Сябры пазнаюцца ў бядзе»: «Жыла-была пчолка Жу-Жу. Вельмі старанная — без працы не сядзела ні хвілiначкі. Усё лета шчыравала, насіла ў вулей мёд». Ды злосны шэршань Абібок пачаў перахопліваць яе і забіраць ношу. Кепска было б пчолцы, калі б на дапамогу не прыйшоў чмель Жык-Жык са сваімі сябрамі.

А гэта казка «Фанабэрыстая Сарока»: «Жыла-была Сарока. Фанабэрыстая, пыхлівая, выхвалянка». Нават хвалілася, што спявае лепш за Салаўя. Пахвалілася яна пра гэта і знаёмай Вароне, якая жыла ў далёкіх краях. А тут раптам Варона вырашыла наведацца ў госці. «Што рабіць? — расхвалявалася белабокая. — Варона ж, мабыць, папросіць мяне праспяваць пасалаўінаму». І знайшла фанабэрыстая Сарока арыгінальнае выйсце. Якое? Пра гэта можна даведацца з казкі.

На дзіва ўдалася М. Сліве казка «Кот Матрос і мышка Анфіса». Матрос, «якога баяліся іншыя вясковыя каты», пасябраваў з маленькай мышкай. Праўда, у любой казцы, якой бы сучаснай яна ні была, абавязкова сутыкаецца добра са злом. Пасябравалі кот Матрос і мышка Анфіса невыпадкова. Мышка ўратавала ката пасля таго, як яго моцна пакусаў Ліс. Таму і адказаў Матрос на дабро. А потым ўратаваў Анфісу, калі яе злавіў «вялізны рыжы Барс, кот без роду і племені», які нават і Матроса не баяўся.

У казцы «Веласіпед-самакат» хлопчыкаў і дзяўчынак чакае сустрэча з веласіпедам, які сам ведае, куды трэба ехаць. Пры адной, праўда, умове: калі той, хто садзіцца на яго, — добры чалавек. Дый апавяданні, якія ўвайшлі ў гэтую кнігу, напісаны так, што прымушаюць дзетак задумацца, што рабіць можна, а чаго — нельга.

Міхась Сліва паклапаціўся пра тое, каб перакласці на беларускую мову некаторыя іншамоўныя казкі. Так у кніжцы з'явіўся раздзел «Казкі народаў свету», у якім можна знайсці ўкраінскія, польскія, эстонскую і нават шатландскую і афрыканскія казкі. Пераклады з некаторых моў па-беларуску гучаць вельмі рэдка.

**Юрась БАНДАРОВІЧ**

# Прыемнага прагляду!

**Выбраныя фільмы ХХІ Мінскага міжнароднага кінафестывалю, якія выклікалі рэзананс гледачоў, пакажуць у межах праекта «Лістапад». Калекцыя», арганізаванага «АРТ Карпарэйшн», «Кінавідэапракатам» і кінатэатрам «Перамога».**



*Кадр з фільма «Тры сэрцы».*

Можна будзе паглядзець і фільм — уладальнік прыза глядацкіх сімпатый «Апантанасць», карціну закрыцця ХХІ ММКФ «Тры сэрцы» з Шарлотай Генсбур, К'ярай Мастраяні і Катрын Дэнёў у галоўных ролях. «Лістапад». Калекцыя» — фільмы папулярных рэжысёраў, чый арыгінальны аўтарскі стыль добра вядомы, а яшчэ — смелыя кінадэбюты, самыя запатрабаваныя акцёры і найпрыгажэйшыя актрысы…

Ужо з 14 снежня ў «Аўтакінатэатры» можна паглядзець фільм «Дурная справа няхітрая». «Чорная» камедыя на фоне бялюткіх краявідаў Скандынавіі ў пастаноўцы аднаго з лепшых рэжысёраў Нарвегіі Ганса Петэра Моланда. Крытыкі параўноўваюць гэтую крымінальную гісторыю з фільмамі Квенціна Таранціна, Гая Рычы і братоў Коэнаў за стыль, іронію і малюнак тонкай грані, якая падзяляе дабро і зло. Акцёры, занятыя ў кінастужцы, — Стэлан Скарсгард («Рассякаючы хвалі», «Дзяўчына з татуіроўкай дракона», «Піраты Карыбскага мора») і Бруна Ганц («Неба над Берлінам», «Бункер», «Вечнасць і адзін дзень»). Фільм браў удзел у асноўным конкурсе Берлінскага МКФ, а на «Лістападзе — 2014» быў прадстаўлены ў пазаконкурснай секцыі «АРТ-Блокбастар».

Кінастужку «Новая сяброўка» да 31 снежня можна пабачыць у кінатэатры «Перамога». Гендарная трагікамедыя, бадай, самага моднага сёння французскага рэжысёра Франсуа Азона ўпрыгожыла пазаконкурсную секцыю «Такое рознае каханне» ММКФ. У нетрывіяльнай гісторыі пра пошук свайго «Я» і выбар ладу жыцця зняліся знакамітыя акцёры: прыгажун Рамэн Дзюрыс, папулярны выканаўца рамантычных роляў (у незвычайным для сябе амплуа), і Анаіс Дэмусцье, якую надзвычай любяць у Францыі.

Кожны зможа ацаніць і дэбютную працу аўстралійскага рэжысёра Стывена Лэнса «Мая спадарыня», якая ўдзельнічала ў конкурсе «Маладосць на маршы» ХХІ ММКФ «Лістапад». Галоўную ролю ў гэтай палкай гісторыі першага кахання і сяброўства выканала выдатная французжанка Эмануэль Беар («Пекла», «8 жанчын», «Місія: невыканальная», «Жаўтавокія кракадзілы»). Мудрагелістая меладрама з далёкага кантынента захапляе рамантыкай і непрадказальнасцю ўзаемаадносін галоўных герояў.

«Апантанасць» — прыз глядацкіх сімпатый «Бронза «Лістапада — 2014» — дэбютная праца-сенсацыя амерыканскага рэжысёра Дам'ена Шазэля. Пра таленавітага 19-гадовага барабаншчыка і яго бязлітаснага, але геніяльнага настаўніка. Гэта аповед пра пераадоленне межаў чалавечых магчымасцей. Пасапраўднаму жорсткі трылер пра музыку і талент, драма вучня і настаўніка: хто выйдзе пераможцам?

Фільм закрыцця ХХІ Мінскага ММКФ «Лістапад» «Тры сэрцы» можна ўбачыць да 14 студзеня. Гэта класічная французская меладрама рэжысёра Бенуа Жака, дзе зоркі еўрапейскага кіно Шарлота Генсбур і К'яра Мастраяні іграюць сясцёр, Катрын Дэнёў — іх маці, а комік Бенуа Пульвард — аб'ект рамантычнай прыхільнасці маладых дзяўчат.

Цікавага прагляду!

**Ганна ШЫМУК**



*За раялем — Піліп Шпартаў.*

# Танцы пад раяль

Для прэзентацыі праекта «PianoDance concert» Піліп Шпартаў невыпадкова абраў тэатральную залу Мінскага дзяржаўнага Палаца дзяцей і моладзі.

Калісьці, чатырохгадовым хлопчыкам, яго прывялі сюды на заняткі. Якія толькі гурткі ён не наведваў: шахмат, танцаў, малявання, лепкі!.. Піліп Шпартаў стаў піяністам. Аднак такое маштабнае развіццё, безумоўна, сфарміравала яго творчую асобу.

Аўтарская фартэпіянная музыка і стала асновай канцэрта. Частка кампазіцый ужо была прадстаўлена на маскоўскіх музычных пляцоўках, некаторыя выканаў упершыню.

У якасці суаўтара праекта выступіла танцорка і харэограф з Масквы Кацярына Пісарава. Акрамя джазавага кірунку, яна прадэманстравала стыль trible fusion, які набірае папулярнасць у нашай краіне. Ідэя канцэрта была выказана ў сумесным выступленні Кацярыны і Піліпа.

А пад заслону Піліп выканаў яскравы саўндтрэк да дакументальнай стужкі «Твар» сваёй сястры. Аляксандра Шпартава, якая, дарэчы, і вяла канцэрт, прызналася, што сваімі нядаўнімі міжнароднымі ўзнагародамі фільм шмат у чым абавязаны ўдаламу музычнаму афармленню.

**Яна ЯВІЧ**

# Да гармоніі

У канцэртнай зале «Верхні горад» адбыўся канцэрт «Quattro mani al'Opera» («Опера ў чатыры рукі»). Італьянскі фартэпіянны дуэт Антанэла Вітэллі і Лучана Беліні выканаў фантазіі на тэму «Травіята», «Тоска», «Сіла лёсу», «Севільскі Цырульнік» — для фартэпіяна ў чатыры рукі ў аранжыроўцы Лучана Беліні. У канцэрце ўдзельнічалі салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Васілій Мінгалёў (тэнар) і заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Анастасія Масквіна (сапрана). Нагодай перадкаляднага канцэрта стала завяршэнне семестра старшынства Італіі ў Савеце Еўрапейскага саюза. Пасол Італіі ў Беларусі спадар Стэфана Б'янкі адзначыў, што галоўнай ідэяй гэтага перыяду ў Савеце ЕС была ідэя салідарнасці — як унутранай, так і знешняй, «з асаблівай увагай да праблем нелегальнай міграцыі, працэсаў пашырэння ЕС, адносін з партнёрамі з Усходняй Еўропы ды іншымі рэгіянальнымі арганізацыямі». Спадар пасол выказаў спадзяванне, што ЕС і Рэспубліка Беларусь будуць выкарыстоўваць для супрацоўніцтва кожную магчымасць. «Мае шчырыя пажаданні — каб гармонія між італьянскімі піяністамі і беларускімі выканаўцамі, дзякуючы якой прагучалі шэдэўры класікаў італьянскай оперы, стала ўвасабленнем гармоніі між нашымі краінамі», — адзначыў спадар Стэфана Б'янкі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Фоташтрых



Фота Кастуся Дробава

*Першай сусветнай вайне, стагоддзе якой адзначаецца ў гэтым годзе, мастак Іван Пратасеня прысвяціў графічную работу «Паэт і вайна» (А. Блок на Палессі ў 1916 г.). Штуршком задумы сталі ўспаміны бацькі мастака пра жахі вайны, а таксама публікацыі з нагоды стагоддзя нараджэння Аляксандра Блока. З біяграфіі пісьменніка вядома, што падчас вайны ён служыў на Палессі.*

## З пошты «ЛіМа»

# Творчы марафон

Восень — 2014 была багатай на культурныя падзеі. Яркія ўспаміны засталіся ад музычнага марафону і канцэрта ў Вялікай студыі Дома радыё, што ладзіліся да Міжнароднага дня музыкі.

Арганізатар свята — канал «Культура» Беларускага радыё, ініцыятар абодвух праектаў — малады беларускі кампазітар, арганіст, аўтар і вядучы радыёпраграмы «Канцэртная зала» Віктар Кісцень. Зачароўвалі шэдэўры класічнай музыкі ў выкананні Сімфанічнага аркестра Белтэлерадыёкампаніі (дырыжор — Юрый Караваеў). Пераможцы музычнага марафону атрымалі памятныя падарункі. А праз пэўны час святочны канцэрт можна было праслухаць і ў межах радыёпраекта «Канцэртная зала».

Уразіў прымеркаваны да 150-годдзя Касцёла Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) Фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская ліра». У праграме — шэсць канцэртаў. А распачаў фэст вечар арганнай музыкі ў выкананні салісткі канцэртнай залы Полацкага Сафійскага сабора Ксеніі Пагарэлай. Далей былі выступленні маладзёжнага гурта касцёла Laudans, канцэрт арганнай і вакальнай музыкі ў выкананні Аляксандра Хумалы і Вольгі Падгайскай. На вечарыне харавой музыкі адбылася прэзентацыя альбома кампазіцый Алены Абрамовіч (на словы святой Фаўсціны Кавальскай з удзелам хору «Голас душы» Мінскага касцёла святых Сымона і Алены пад кіраўніцтвам Таццяны Гажэўскай). Асаблівае ж захапленне выклікаў канцэрт камернай музыкі з удзелам Кацярыны Архіпавай (скрыпка), Наталлі Малышавай (віяланчэль) і Віктара Кісцяня (арган). Закрываў фестываль польскі арганіст Роберт Грудзень.

Што да літаратурных падзей, то варта прыгадаць «Вечар паэзіі», які ладзіўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў межах «Музычнай гасцёўні» Таццяны Старчанка. Галоўным героем вечара стаў майстар мастацкага слова, радыёвядучы і артыст Алег Вінярскі.

**Валянціна ФІЛІПЕНКА,**
**кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт**



*Святлана Паўлавіцкая распавядае пра экспазіцыю.*

# Час Пісьменніка

**Пад такой назвай у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь праходзіць выстаўка, прымеркаваная да 80-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка і грамадскага дзеяча Івана Чыгрынава. Прадстаўлены тут унікальныя экспанаты — творы, дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы.**

Падрыхтавалі выстаўку супрацоўнікі кніжніцы Святлана Паўлавіцкая ды Алена Галоўчыц. «Дзейнасць Івана Гаўрылавіча была вельмі шматгранная, разнабаковай, — зазначыла Святлана Паўлавіцкая, галоўны бібліятэкар аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў. — У гэтай экспазіцыі ён прадстаўлены празаікам, паэтам, драматургам, публіцыстам, грамадскім дзеячам».



*Фота Кастуся Дробава*

*Рукапіс кнігі Івана Чыгрынава «Паміж сонцам і месяцам».*

Літаратурны дэбют Івана Чыгрынава адбыўся ў часопісе «Полымя» ў 1952 годзе. На выстаўцы можна пабачыць нумар выдання, у якім быў змешчаны яго верш «Сон трактарыста». Побач — фотаздымак у рэдакцыі часопіса, зроблены ўжо ў 1960-я гг. На ім Іван Чыгрынаў разам з вядомымі пісьменнікамі: Іванам Пташнікавым, Міхасём Стральцовым, Міколам Аўрамчыкам, Барысам Сачанкам, Анатолем Вярцінскім.

Экспануюцца творы, прысвечаныя ваенным падзеям: «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», «Вяртанне да віны». Тэма Вялікай Айчыннай вайны займала значнае месца ў творчасці пісьменніка. Ваеннае ліхалецце Іван Гаўрылавіч спазнаў у дзяцінстве.

Прыцягваюць увагу матэрыялы з сямейнага архіва, прадастаўленыя жонкай пісьменніка, Людмілай Прохараўнай. Шмат прыгожых фотаздымкаў, якія адлюстроўваюць цікавыя моманты жыцця: Іван Гаўрылавіч побач з сям'ёю, на дачы, у камандзіроўцы, на сустрэчы з чытачамі ды студэнтамі… Ёсць здымак, дзе Чыгрынаў разам з Максімам Танкам і Барысам Сачанкам шпацыруюць па адной з вуліц Мінска.

Творца паспяхова спалучаў пісьменніцкую дзейнасць з актыўнай грамадскай работай. Наведвальнікі выстаўкі ўбачаць дакументы, якія распавядаюць пра гэтыя старонкі яго жыцця. Тут і пасведчанні, запрашэнні, ганаровыя граматы, а таксама — фотаздымак, зроблены падчас выступлення на пасяджэнні Генеральнай Асамблеі ААН у 1978 годзе. Іван Чыгрынаў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, доўгі час узначальваў Беларускі фонд культуры. Праекты, ля вытокаў якіх стаяў Іван Гаўрылавіч, актуальныя і сёння.

Прадстаўлены крытычныя і літаратуразнаўчыя працы даследчыкаў творчасці пісьменніка — Алеся Марціновіча і Таісы Грамадчанка, а таксама пераклады твораў Івана Чыгрынава. Літаратурная спадчына аўтара перастворана на розных мовах свету: англійскай, балгарскай, французскай, польскай, армянскай... Экспануюцца сённяшнія перавыданні. Каштоўная для супрацоўнікаў бібліятэкі кніга «Выбраныя творы», выдадзеная ў 2013 годзе, з аўтографам жонкі пісьменніка.

Цікавасць прадстаўляюць асабістыя рэчы: акуляры, ручка, нататнікі, якія можна пагартаць. У адным з іх змешчаны рукапіс «Паміж сонцам і месяцам». Бачна, што да стварэння новых твораў пісьменнік падыходзіў вельмі скрупулёзна: акуратным почыркам зроблены шматлікія ўдакладненні, аўтарскія праўкі. У іншым нататніку Іван Чыгрынаў рабіў запісы падчас VI з'езда пісьменнікаў СССР.

Таксама на выстаўцы можна ўбачыць гадзіннік, які належаў пісьменніку. Гэты экспанат — своеасаблівы сімвал часу, неўміручасці творчасці. Іван Гаўрылавіч пакінуў гэты свет у 1996 годзе. Але фізічная смерць не азначае смерці творчай…

Наведаць экспазіцыю, прысвечаную Івану Чыгрынаву, можна будзе да 5 студзеня.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Ад бацькоўскага парога

**У чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адкрылася выстаўка «Іван Чыгрынаў. Адтуль, з бацькоўскага парога…», прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 200 матэрыялаў.**

Невыпадкова назвай выстаўкі стаў радок з аўтабіяграфіі пісьменніка. У творчасці Івана Гаўрылавіча прасочваецца асаблівая прывязанасць да малой радзімы. Калісьці аўтар напісаў: «…адтуль, з бацькоўскага парога, уецца сцяжынка майго жыцця. Там, у Забесядзі, на Магілёўшчыне, назаўсёды засталіся сляды маіх герояў, жывых і мёртвых, пра якіх я расказваю ў раманах».

Іван Чыгрынаў — пісьменнік, драматург, перакладчык, публіцыст, сцэнарыст, грамадскі дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева — зрабіў вялікі ўнёсак у культуру нашай краіны. Творы аўтара вядомыя не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Падрыхтавалі выстаўку супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі. У экспазіцыі шмат дакументаў з асабістага архіва Івана Чыгрынава. У свой час удава пісьменніка Людміла Прохараўна перадала ў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры больш як 600 розных дакументаў. Сярод іх — рукапісы раманаў з аўтарскімі праўкамі, фотаздымкі, віншавальныя паштоўкі, запрашэнні, буклеты, візіткі, асабістыя рэчы: кішэнны гадзіннік, партфель, барсетка, акуляры, аловак.

У асобным раздзеле дэманструецца літаратурная спадчына Івана Гаўрылавіча: зборы твораў, кнігі апавяданняў і публіцыстыкі, раманы, п'есы, літаратуразнаўчыя працы, пераклады яго твораў на рускую, балгарскую, нямецкую, іспанскую, французскую і іншыя мовы. Можна ўбачыць і кнігі з уласных калекцый беларускіх пісьменнікаў, што захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў: У. Івашына, Я. Брыля, Н. Улашчыка, П. Глебкі. На многіх ёсць дарчыя надпісы.

Экспануецца перыёдыка з публікацыямі Івана Чыгрынава. На стэлажах — часопісы, у якіх упершыню былі змешчаны апавяданні пісьменніка, «Полымя», «Маладосць», «Беларусь». Ёсць тут і газета «Літаратура і мастацтва», у якой было надрукавана першае апавяданне літаратара «Праз гады». Менавіта з гэтай публікацыі пачалася, на думку пісьменніка, яго сталая творчасць. У часопісе «Маладосць» пабачылі свет усе творы з цыкла раманаў пра Вялікую Айчынную вайну — «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», у якіх адлюстравана атмасфера ваеннага часу, вясковы побыт на акупіраванай тэрыторыі, даследуюцца вытокі народнага гераізму.

Пазнаёмяцца наведвальнікі і з рукапісамі п'ес Івана Чыгрынава. Прадстаўлены творы пісьменніка, якія не выходзілі асобна, а друкаваліся ў часопісах: п'есы «Госці» (1993), «Савіцкі» (1994), «Прымак» (1994), «Брат караля» (1995).

Завяршаюць экспазіцыю публікацыі літаратурных крытыкаў, успаміны сяброў пра жыццё, творчасць і грамадскую дзейнасць пісьменніка, артыкулы пра мастацкія фільмы і спектаклі, пастаўленыя па яго творах.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,
навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі,
Паліна САЎГЕН,
вядучы навуковы супрацоўнік Музея гісторыі беларускай літаратуры**

# Паэта шчырае слова

Творчы вечар заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, паэта Уладзіміра Карызны «Люблю цябе, Белая Русь» прайшоў у межах літаратурных сустрэч клуба «Шчырасць» у сталічнай бібліятэцы № 22.

У чытальнай зале ладзілася выстаўка кніг і публікацый творцы, на пачатку імпрэзы прагучала песня Юрыя Семянякі на словы У. Карызны «Люблю цябе, Белая Русь». Прызнанне да аўтара прыйшло перш за ўсё як да паэта-песенніка. Музыку да вершаў творцы пісалі А. Багатыроў, Я. Глебаў, Д. Смольскі, І. Лучанок, Л. Захлеўны, Э. Ханок ды інш. Многія з твораў гучалі ў выкананні народнага хора імя Г. Цітовіча, Валянціны Пархоменка, Тамары Раеўскай, ансамбляў «Верасы» і «Сябры». Паэт і сам піша музыку (аўтар больш як 50 песень).

Кіраўнік літаратурнага клуба «Шчырасць», старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў адзначыў, што без шчырага слова Уладзіміра Карызны беларуская паэзія не была б такой адметнай. Паэт — адзін з аўтараў Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Уладзімір Карызна распавёў пра сваё жыццё, падзяліўся думкамі пра беларускую літаратуру.

**Наталля ЯРАШЭВІЧ**

# Пухавіцкая кніжніца

Супрацоўнікі Пухавіцкай раённай дзіцячай бібліятэкі падтрымліваюць сувязь з мясцовым дзіцячым садком № 2, Цэнтрам пазашкольнай працы «Світанак». Цікава ў бібліятэцы чытачам розных узростаў. Так, шмат гадоў тут працуе клуб аматараў казкі «Чароўны куфэрак», які наведваюць вучні пачатковых класаў усіх школ горада. Самыя маленькія сябры клуба «Вясёлая карусель», выхаванцы дзіцячага сада № 2, вельмі актыўна ўдзельнічаюць у яго працы, знаёмяцца з творчасцю пісьменнікаў. А для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту створаны клуб цікаўных і дапытлівых «Мудрая сава». Прапагандуецца і здаровы лад жыцця. Штогод праходзіць Тыдзень дзіцячай кнігі. Працуе бібліятэка і ў краязнаўчым напрамку. Супрацоўнікі праводзяць віктарыны, завочныя падарожжы, ладзяць сустрэчы з вядомымі асобамі.

Адмыслова для вучняў створаны спіс газетных і часопісных артыкулаў, прысвечаных творчасці беларускіх пісьменнікаў. Матэрыялы папак «З гісторыі Пухавіцкага краю», «Якуб Колас, Янка Купала і Пухавіччына», «Пухавіччына ў Вялікай Айчыннай вайне», «Вайна праз сэрцы новых пакаленняў» — сапраўдная знаходка для тых, хто рыхтуецца да школьных алімпіяд, піша рэфераты.

Дзевяцікласніца Мар'інагорскай СШ № 4 Аляксандра Бабук — аўтар бібліяграфічнай творчай работы «Кніга ўчора, сёння і заўтра» (кіраўнік — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Юсупава). На раённым конкурсе-аглядзе вучнёўскіх работ гэтае грунтоўнае даследаванне адзначана ў ліку найлепшых.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**



*Сяргей Лагачоў «Фуршэт на Бярэзіне».*

# Колеры Барысава

Крыніца натхнення барысаўскіх майстроў пэндзля — у гісторыі краю. У гэтым можна было пераканацца, наведаўшы выстаўку «Барысаўскі каларыт», арганізаваную мастацкай галерэяй «З'ява» Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева. Сёлета тут было прадстаўлена больш як 70 карцін 25 мясцовых мастакоў.

Праз палотны Генадзя Ганчаронка, Сяргея Ткачова, Алы Сяліцкай, Юрыя Кукоўскага, Таццяны Рагозінай глядач спазнае свет, напоўнены ўнутранай гармоніяй, цеплынёй і шчырасцю. А пейзажы, нацюрморты, партрэты, напісаныя Станіславам Баярэнкам, Аляксандрам Малчанавым, Вольгай Паляковай, Людмілай Макеевай, Аксанай Кульваноўскай, вызначаюцца адметнай стылістыкай і тонкім адчуваннем колеру.

Яркі прыклад салоннага жывапісу — творы Барыса Цатурава і Таццяны Каландырэц. Іх карцінам уласцівы вобразна-паэтычны пачатак, глыбокая філасофія. Асаблівай эмацыянальнасцю вылучаюцца гарадскія пейзажы Валерыя Гінца і Алега Драбышэўскага — з тонкім адчуваннем сучаснага рытму горада, яны адначасова пазбаўленыя ўрбаністычнай будзённасці. У атмасферу сапраўднага кветкавага раю пераносяць творы прадстаўнікоў віцебскай і мінскай школ акварэлі Ірыны Пестрык і Людмілы Канашэўскай.

Вылучаюцца ў экспазіцыі дзіцячыя партрэты мастачкі Тамары Стасевіч. Іх персанажы здаюцца таямнічымі і загадкавымі дзякуючы вінтажнаму аздабленню. За кожным вобразам — унікальная гісторыя. Карціны аб'ядноўвае высокае майстэрства і метафарычнасць, неадназначнасць простага на першы погляд сюжэта. Міжволі спыняеш позірк на карцінах Вячаслава Навасэлаўскага. Здзіўляе сюррэалістычная смеласць аўтара, нечаканасць вобразаў.

Кульмінацыя, «кропка прыцягнення» экспазіцыі — творы майстроў дэкаратыўнага жывапісу Сяргея Лагачова і Віктара Бялова. У іх работах удала спалучаюцца тэатральны гратэск, фактурныя напластаванні. Феерверк яркіх фарбаў — прыкмета творчасці Ірыны Гінц і Наталлі Царык.

Уздымаюць настрой і жанравыя сцэны з народнага побыту, увасобленыя ў кераміцы Сяргеем Какшынскім. Дэталі поўнасцю раскрываюць характар яго персанажаў. У чарадзейны свет карцін з бяросты запрашае мастак Андрэй Мірзаян. «Барысаўскі каларыт» — новы крок да мастацкіх пошукаў і творчых ідэй.

**Анжэла КУДАКОВА, мастацтвазнаўца мастацкай галерэі «З'ява»**

# Выклік кінуты

Удзіцячай бібліятэцы № 1 г. Мінска стартаваў праект «Чэлендж». Слова «чэлендж» паходзіць з англійскай мовы і азначае «выклік». Напэўна, усім вядомы міжнародны флэш-моб Ice Bucket Challenge, які захапіў сацыяльныя сеткі. Ідэя — абліць сябе ледзяной вадой, зрабіць ахвяраванні ў дабрачынны фонд і перадаць эстафету іншым. Праект прыцягнуў увагу людзей з усяго свету да праблемы лячэння бакавога аміятрафічнага склерозу.

Натхнёўшыся гэтай ідэяй, супрацоўнікі кніжніцы вырашылі стварыць свой «Чэлендж». У флэш-мобе будуць удзельнічаць маладыя беларускія аўтары. Пісьменнік павінен распавесці пра сваю творчасць дзецям і перадаць эстафету іншаму. Мэта праекта — зацікавіць маленькіх чытачоў беларускай літаратурай, пазнаёміць з кнігамі творцаў на роднай мове.

Першай паўдзельнічала ў праекце пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая, аўтар апавяданняў і казак, дзіцячых кніг «Падарожжы ў Чароўны лес» і «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка». Творца прэзентавала свае кнігі вучням 4 класа сярэдняй школы № 60. У наступнай сустрэчы ўзяла ўдзел пісьменніца Таццяна Сівец, якая перадала эстафету Наталлі Бучынскай.

**Вольга БОГУК**

# Я — бібліятэкар!

Удзячна лёсу за тое, што працую загадчыцай Фаніпальскай гарадской бібліятэкі. Можа, хтосьці лічыць, што кніжніцы сёння не патрэбны: любую літаратуру можна знайсці ў інтэрнэце. Але я ўпэўнена: мая прафесія не менш значная, чым іншыя, і людзям яна вельмі патрэбная, асаблівa дзецям.

Работа з юнымі дорыць мне вялікую асалоду. Дзеці — самыя шчырыя, удзячныя і актыўныя чытачы. Мы супрацоўнічаем з дзіцячым садам і школай, запрашаем да сябе бацькоў з дзецьмі дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Малыя ведаюць: у бібліятэцы «жывуць» кнігі, якія сябруюць з імі.

Да кожнага дзіцяці імкнёмся знайсці свой падыход. Прыемна бачыць, як гараць іх вочкі, калі расказваюць пра ўпадабаную кнігу. За работу юныя чытачы дзякуюць хто словам, хто цукеркай, летам — кветачкай. «У вас весела!» — гэтыя шчырыя словы грэюць душу бібліятэкара. Ніколі не забуду трэцякласніцу, якая пасля экскурсіі ў кніжніцу падышла да мяне і абняла. Добрыя словы дзяцей — найлепшы паказчык нашай працы. Галоўная задача бібліятэкара — не выдаваць кнігі, а цікавіцца дзецьмі, умець іх выслухаць, узяць удзел у іх жыцці, а самае галоўнае — прапанаваць кнігу, якая стане сябрам.

**Наталля БЛІЗНЮКОВА**

# Брэсцкая «Пушкінка»

**У Брэсце сёння амаль 90 бібліятэк. Найбуйнейшыя з іх — абласная імя А. М. Горкага і 15 публічных, аб'яднаных у гарадскую цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму на чале з Цэнтральнай гарадской бібліятэкай імя А. С. Пушкіна.**

Насуперак тэндэнцыі змяншэння колькасці бібліятэк у краіне ў Брэсце іх большае. У Год кнігі была адрэстаўравана і ўрачыста адчынена галоўная гарадская бібліятэка.

— Гісторыя брэсцкай «Пушкінкі» пачынаецца з 1940 года, — распавяла дырэктар гарадской ЦБС Святлана Сямашка. — У 1953-м мы пераехалі на Савецкую. У двух пакоях размясціўся абанемент, у трэцім — чытальная зала на 20 месцаў, а яшчэ адзін прыстасавалі пад кнігасховішча. У 1957-м зноў наваселле — на Маскоўскай. Тут быў адкрыты свабодны доступ да кніг і складзены алфавітны і сістэматычны каталогі. А ў 1970 годзе горад зрабіў нам і чытачам сапраўдны падарунак — цяперашняе памяшканне ў 1000 квадратных метраў. Агульны фонд нашых бібліятэк — 545 тысяч друкаваных дакументаў.

У 1975 годзе створаны фонд агучанай літаратуры пры Брэсцкім таварыстве сляпых. Першыя кнігі, каля 80 асобнікаў, былі на бабінах. Дарэчы, абласное праўленне грамадскага аб'яднання інвалідаў па зроку бясплатна перадало нам кнігі і памяшканне. А ў 2004-м адкрылася спецыяльная бібліятэка-філіял № 12 — для інвалідаў і пажылых людзей. У фондзе — кнігі, выдадзеныя рэльефна-кропкавым шрыфтам па сістэме Брайля, якія атрымліваем ад калег з Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай бібліятэкі для сляпых, і звычайная літаратура. Сёлета адкрылася новае памяшканне філіяла па бульвары Касманаўтаў.

Праводзяцца ў «Пушкінцы» прэзентацыі кніг, творчыя сустрэчы. Так, у кніжніцу завітаў Павел Саенка з Екацярынбурга — намеснік старшыні савета Беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Урала», капітан ВМФ І рангу ў адстаўцы, аўтар кніг «Маршал Жукаў», «Мы вучым лётаць ракеты» і г. д., які прадставіў сваю новую кнігу «Беларусь і Расія: жывыя ніткі сваяцтва». А на старонках нядаўна прэзентаванай кнігі берасцейскага мастака і пісьменніка Лявона Валасюка «Непрыдуманыя партрэты» сабраны матэрыял пра выдатных дзеячаў мастацтва Берасцейшчыны.

— Сумесна з гарадскімі ўстановамі адукацыі бібліятэкі распрацавалі і пачалі рэалізоўваць цікавую праграму папулярызацыі кнігі і чытання «Бібліятэчны дзень», — дадае Святлана Мікалаеўна. — А ў межах яшчэ аднаго новага праекта пазнаёмім усіх жадаючых з інтэрнэтам. Рыхтуемся і да 75-гадовага юбілею «Пушкінкі», які адзначым у наступным годзе.

**Аляксандр ЮДЗІЦКІ**

# Творцы з клумбы

Аддзел гуманітарна-асветніцкай работы і папулярызацыі кніжных помнікаў Фундаментальнай бібліятэкі Белдзяржуніверсітэта актыўна далучае студэнтаў усіх факультэтаў да правядзення шматлікіх мерапрыемстваў. Сёлета найбольш актыўныя аб'ядналіся ў «КЛУмБу» — так юнакі і дзяўчаты назвалі клуб аматараў мастацкага слова, створаны па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам вядучага бібліятэкара аддзела Ірыны Шкіронак.

Многія з заўзятараў клуба самі ўжо маюць публікацыі ў друку. Сярод іх — Аліна Карпіцкая, Таццяна Купрыянец, Кацярына Роўда, Валерыя Ісаковіч, Ігар Пятровіч, Ганна Шыдлоўская ды іншыя. Асаблівую цікавасць для іх уяўляюць сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, кансультацыі і расповеды тых пра творчасць. Гасцямі «клумбаўцаў» былі Міхась Пазнякоў, Уладзімір Навумовіч, Эдуард Збароўскі. Падчас майстар-класа з Анатолем Зэкавым пазнаёміліся з копіямі рукапісаў А. Пушкіна, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага і Л. Талстога, якія падрыхтавала і прадставіла вядучы бібліятэкар аддзела Марына Курэйчык. Уразіла ўдзельнікаў клуба і парыжскае выданне 1580 года Жана Бадэна «Шэсць кніг аб Рэспубліцы», асобнік якога яны змаглі не толькі пабачыць, але і пагартаць.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Пра моцных

Супрацоўнікі Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэкі занепакоены праблемай зніжэння цікавасці да друкаванага слова і кніг. Вось і стараюцца прыцягнуць увагу наведвальнікаў самымі рознымі сродкамі.

У кніжніцы ладзіліся розныя экспазіцыі. Адна з іх — «Моцныя духам» — прымеркавана да Міжнароднага дня інвалідаў. На паліцах прадстаўлены творы аўтараў, якія насуперак усяму дасягнулі поспеху. Гэта Мікалай Астроўскі, аўтар рамана «Як гартавалася сталь», сусветна вядомы іспанскі пісьменнік Мігель Сервантэс, нямецкі кампазітар Людвіг ван Бетховен, Барыс Палявы (хто не ведае яго «Аповесць пра сапраўднага чалавека»!) ды інш.

Асаблівую цікавасць у чытачоў выклікала кніга з рэльефна-кропкавым шрыфтам для сляпых, распрацаваным Луі Брайлем яшчэ ў 1829 годзе. У трохгадовым узросце Брайль параніў вочы нажом і аслеп. Але не скарыўся лёсу.

Сіла духу гэтых людзей, іх вера ў сябе і ўласныя магчымасці выклікаюць вялікае захапленне ў наведвальнікаў выстаўкі.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА**

# Гучалі вершы...

Усталічнай публічнай бібліятэцы № 21 адбылася прэзентацыя кнігі Міхася Пазнякова «Спявае жыта», якая пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У выданне ўвайшлі паэтычныя і празаічныя творы пісьменніка, напісаныя на працягу апошніх пяці гадоў. Усе яны аб'яднаны, бадай, галоўнай тэмай у творчасці М. Пазнякова — тэмай Радзімы, роднай Быхаўшчыны. У вершах і апавяданнях — шчырая споведзь аўтара, сыноўняя любоў і ўдзячнасць, трывогі і захапленні…

Вяла прэзентацыю загадчык бібліятэкі Нэлі Казак. Слухачы — навучэнцы Мінскага каледжа чыгуначнікаў.

Міхась Паўлавіч адказаў на шматлікія пытанні, прачытаў уласныя творы. Госці імпрэзы пачулі песню на яго верш «На Радзіме» ў выкананні саліста ансамбля народнай песні і музыкі «Свята» Вячаслава Статкевіча.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Вокны ў паралельны свет



*Белы папугай. 1997 г.*

**Юбілейная выстаўка «Жыццё. Жывапіс. Каханне» Ганаровага акадэміка Еўрапейскай акадэміі мастацтваў, сябра Беларускага саюза мастакоў Андрэя Смаляка адкрылася ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 100 жывапісных работ, якія адлюстроўваюць усе этапы творчасці мастака, а таксама арыгіналы ўнікальнага аўтарскага праекта «Карціны, якія ажылі».**

Андрэй Смаляк стварыў уласную маляўнічую мову, у якой арганічна спалучаюцца лірычнасць беларускай мастацкай традыцыі і фармальныя прыёмы постмадэрнізму. Паліхромныя мазкі, экспрэсіўныя лініі, якія то мадэліруюць, то разбураюць форму, рассеянае па паверхні святло з эфектам мігцення...

Мастак і сваё творчае крэда фармулюе ў тыпова постмадэрнісцкай манеры: «Часцінка майго «Я» жыве ў розных часах і народах. Адразу і ўсюды. Рэмбрант, Вермеер, Маціс, Пікаса... Яны існуюць у маёй свядомасці як рэальныя людзі, у плоці і крыві. Іх жыватворная энергія сілкуе маю душу». Свядома прымяраючы маскі класічных майстроў, ён дэкларуе далучэнне да еўрапейскай мастацкай культуры.

Спроба адсачыць прыроду колеру прывяла да арыгінальнага выніку ў абстрактнай тэме. У серыі з шасці карцін «Партрэты колераў» (1994) мастак як бы персаніфікуе колеры, пакрываючы паверхню палатна пляценнем формаў. Кожны глядач бачыць у калейдаскопе кветак уласны вобраз.

Намаляванае на большасці палотнаў Андрэя Смаляка, калі задумацца, не існуе ў рэальным жыцці. Яго карціны — гэта вокны ў паралельны свет. Ён населены дзіўнымі жанчынамі і загадкавымі мужчынамі, у хісткім перапляценні ліній узнікаюць вобразы гарадоў, якія ніколі не існавалі. Мы бачым сцэны з невядомых нам балетаў, карнавалаў і цыркавых прадстаўленняў. Мастацтва недамоўленасці, якім віртуозна валодае творца, — аснова яго стылю.

**Таццяна ШЧЭРБА**



*Да Сонца. 2014 г.*

# Прывезці з Балканаў



*Леанід Гоманаў «Вечнае і рукатворнае». 2014 г.*

Арт-пляцоўка класічнага і сучаснага мастацтва «Галерэя ДК» прэзентавала выстаўку-продаж жывапісу «Балканы» трох беларускіх мастакоў: Анатоля Бяляўскага, Леаніда Гоманава і Мікалая Мішчанкі.

У чэрвені 2014 года ў Чарнагорыі адбыўся міжнародны пленэр жывапісу. Яго ўдзельнікамі былі мастакі з Сербіі, Чарнагорыі, Беларусі, Расіі і Малдовы. Нашу краіну прадстаўлялі шэсць жывапісцаў Беларускага саюза мастакоў. Вынік пленэру — выстаўкі ў еўрапейскіх краінах, а таксама выданне каталога лепшых работ мастакоў-удзельнікаў.

Сустрэчы з вядучымі майстрамі пэндзля Сербіі і Чарнагорыі ў іх творчых майстэрнях, сумесныя вечарыны, цікавыя гутаркі пакінулі безліч яркіх уражанняў, што і паслужыла падставай для стварэння арт-праекта «Балканы». На выстаўцы прадстаўлены пейзажы Чарнагорыі. Адметная прырода не можа пакінуць абыякавым нікога.

У кожнага аўтара свая манера выканання, але аб'ядноўвае іх тэматыка горных ландшафтаў, марская роўнядзь і неабсяжная прастора. Адметная рыса праекта — творы ў традыцыйна-рэалістычнай манеры, што ўласціва беларускаму мастацтву.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

la Biennale di Venezia

# Нашы едуць на Венецыю!

**Нацыянальны павільён Рэспублікі Беларусь будзе прадстаўлены на 56-м Венецыянскім біенале сучаснага мастацтва з 9 мая па 22 лістапада 2015 года.**

Арганізатарам праекта выступае Міністэрства культуры Беларусі пры падтрымцы Пасольства краіны ў Італіі. Камісар павільёна — кіраўнік Цэнтра сучасных мастацтваў Наталля Шаранговіч. З 5 па 24 лістапада 2014 года Міністэрства культуры прымала заяўкі і праводзіла конкурс кураторскіх канцэпцый для нацыянальнага павільёна. Ацэньваць прадстаўленыя праекты будзе журы, у склад якога ўваходзяць вядомыя беларускія мастацтвазнаўцы, мастакі, дызайнеры. Пераможца конкурсу атрымае магчымасць рэалізаваць свой праект у Венецыі ў 2015 годзе.

Венецыянскае біенале, адзін з самых вядомых форумаў сусветнага мастацтва, праводзіцца з 1895 года раз на два гады з удзелам міжнароднага журы. З 1975 года, акрамя сучаснага мастацтва і архітэктуры, у структуру міжнароднай выстаўкі ўваходзяць кінематограф, сучасны танец і музыка. Галоўная ўзнагарода Венецыянскага біенале — «Залаты леў». Пра ўдзел у Міжнароднай выстаўцы сучаснага мастацтва ў Венецыі ў 2015 годзе ўжо заявілі 53 краіны свету.

Беларусь будзе прадстаўлена на Венецыянскім біенале ў трэці раз. Дэбют нашай краіны адбыўся ў 2005 годзе. Беларуская экспазіцыя была арганізавана дзякуючы італьянскаму куратару Энца Фарнара пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Італіі. У Венецыі дэманстраваліся работы Леаніда Хобатава, Руслана Вашкевіча, Ігара Цішына, Валерыя Шкарубы, Уладзіміра Цэслера і Сяргея Войчанкі, Андрэя Задорына, Наталлі Залознай.

У 2011-м на 54-м Венецыянскім біенале Беларусь прадставіла сучасную інтэрпрэтацыю афармлення тэксту Kodex. Куратарам павільёна стаў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, камісарам — дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шаранговіч. Экспазіцыю рэалізавалі пяць мастакоў: Юрый Алісевіч, Артур Кліноў, Канстанцін Касцючэнка, Віктар Пятроў і Дзяніс Скварцоў. Генеральным спонсарам праекта выступіў ААТ «Прыёрбанк».

Па словах куратара асноўнага праекта біенале, дырэктара Мюнхенскага дома мастацтваў Оквуі Энвезора, 56-я Міжнародная выстаўка сучаснага мастацтва ў Венецыі «Усе лёсы свету» (All the World's Futures) дапаможа «асэнсаваць, даследаваць і выказаць трывогі нашага часу ва ўсёй паўнаце, зрабіць іх зразумелымі».

**Ганна ШЫМУК**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2273.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.12.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4968.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686
14050